PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 47 (2167) Год XLII Беласток 23 лістапада 1997 г. Цана 1 зл.

# Тут жывуць прыгожыя людзі



*Інструментальная капэла „Маланкі".*

Ада Чачуга

Трэба прызнаць, што Бельскі дом культуры не толькі многа робіць, але і ўмее паказаць, што ён робіць. Сітуацыю надта праясняе, напрыклад, цыклічнае мерапрыемства „Bielskie klimaty" (свядома пішу гэту назву па-польску, бо неяк яна мне на беларускую мову не перакладаецца). Зразумела, што справа тут у спецыфічным настроі, у тоій атмасферы, якой дыхае Бельск і якая праяўляецца ў дзейнасці мясцовага дома культуры. Каб паказаць усім канкрэтна тое, што тут адбываецца і чым можна пахваліцца.

Мерапрыемстваў з цыкла „кліматаў" дагэтуль адбылося ўжо сем. Выступаў Хор польскай нацыянальнай песні, калектыў „Васілёчкі", дзіцячы калектыў „Падляшскія зязюлі", „Дзявочыя ноткі" (разам святкавалі і іх 20-гадовы юбілей), калектыў „Дзіравы вігвам", а нават прэзентаваліся: танцавальны клуб „Кадрыль-Гама" ды мастацкі гурток.

А вось 9 лістапада г.г. адбылося ўжо восьмае мерапрыемства з гэтага цыкла, у праграме якога быў канцэрт і прэзентацыя дасягненняў калектыву „Маланка". І была яшчэ адна нагода для ўрачыстасці: уручэнне Кавалерскага крыжа Ордэна Адраджэння Польшчы Сяргею Лукашуку, шматгадоваму дырэктару Бельскага дома культуры і да сёння кіраўніку некалькіх мастацкіх калектываў: „Маланка", „Дзявочыя ноткі" (вучаніцы ліцэя імя Б. Тарашкевіча) і „Журавінка" (вучаніцы бельскай пачатковай школы нумар 3).

Калектыў „Маланка" ўзнік у студзені 1990 года і было гэта спачатку трыо (з былых членаў калектыву „Дзявочыя ноткі"): Багуслава Карчэўская, Лідзія Маліноўская і Аліна Бурыла. Вельмі хутка яны сталі лаўрэатамі цэнтральнага агляду „Беларускай песні". А ўжо ў ліпені гэтага ж года выступілі на Беларусі. Мастацкім кіраўніком калектыву стаў Сяргей Лукашук, вядомы арганізатар беларускага музычнага жыцця і былы дырыжор „Васілёчкаў".

Першы гадзінны канцэрт калектыву „Маланка", які складаўся ўжо з трынаццаці асоб, адбыўся ў доме культуры 14 красавіка 1991 года. І неўзабаве яны паехалі ўпершыню за граніцу: у Гародні якраз адбываўся Фестываль харавой музыкі.

У верасні 1992 года „Маланка" ўжо мела новыя касцюмы, выкананыя ў Гародні.

За гэтыя гады калектыў выступаў не толькі на Беласточчыне і ў цэнтральных аглядах беларускай песні ў самім Беластоку, але і ў Гданьску, Варшаве, Дабрадзені на аглядах калектываў нацыянальных меншасцей, дзе прадстаўляў беларусаў. У мінулым годзе даваў канцэрты ў Шчырку, Вісле і Асвенціме, а таксама ў Саноку. Удзельнічаў у І Міжнародным фестывалі фальклору ў Пінску на Беларусі.

Вельмі хваляваліся члены калектыву, калі ехалі ў дзевяноста трэцім годзе ў Францыю, на Свята Еўропы. Ці зразумеюць там харaство іх беларускіх песень?! Ці зацікавяць яны там кагосьці, хто і сам спявае... Але калі грымнулі беларускую народную песню „Чаму ж мне не пець, чаму ж не гудзець", усе слухачы заціхлі і стала ясна, што яны спадабаліся. Там далі тры канцэрты.

Два разы — у дзевяноста трэцім і дзевяноста пятым гадах — выступалі таксама ў Германіі.

Дагэтуль выдадзены чатыры касеты „Маланкі": тры — з народнымі песнямі і адна — з праваслаўнымі калядкамі. Гэтыя песні можна часта пачуць па беластоцкім радыё і ў тэлебачанні.

Адным словам, ніхто не можа папракнуць, што Бельскі дом культуры працуе не па-сучаснаму.

... Шмат цёплых слоў плыве ў адрас арганізатараў культурнага жыцця ў Бельску, а перш за ўсё ў адрас Сяргея Лукашука. Уручаючы яму Кавалерскі крыж, беластоцкі віцэ-ваявода Гжэгаж Рыкоўскі падсумаваў: „За ўсё добрае, што Сяргей Лукашук зрабіў для гэтай зямлі".

Першую частку сваёй праграмы „Маланка" выконвае сёння яшчэ ў „старых" касцюмах. Пасля неспадзеўка: другую частку спяваюць ужо ў новых касцюмах, выкананых на Фабрыцы нацыянальных вырабаў (там ручная праца) у Менску. Гэта дар „Маланцы" ад Міністэрства культуры Беларусі. Усяго праспявалі мо дваццаць тры ці дваццаць чатыры песні. Гэта якраз і ёсць прывілей „кліматаў", што можна даць поўны канцэрт.

Бурмістр Бельска-Падляшскага Андрэй Сцепанюк то ўваходзіў на сцэну, то сыходзіў з яе. Трэба ж гасцей прывітаць, бо тут жа і віцэ-ваявода Гжэгаж Рыкоўскі, і дырэктар Аддзела культуры і спор-

[працяг ☞ 5]



*„Маланка" ў новых касцюмах.*

# У нумары

# Мы прачыталі

*Mieszkańcom Mińska znudziły się nazwy ulic sławiące bohaterów rewolucji październikowej. Jeszcze kilka lat temu białoruska stolica mogła pochwalić się jedynym na świecie skrzyżowaniem Lenina i ... Lenina. W centrum miasta ulica Lenina krzyżowała się z prospektem imienia wodza rewolucji. Idąc kilkaset metrów dalej dochodziło się do placu Lenina, na którym wznosił się pomnik Lenina. Tak też nazywała się położona poniżej stacja metra.*

*W centrum miasta straszą nadal Karol Marks, Fryderyk Engels, Karol Libknecht i Róża Luksemburg. Według sondaży, mieszkańcy Mińska chętnie zlikwidowaliby nazwy poświęcone wodzom rewolucji: Leninowi, Wołodarskiemu, Kalininowi, Swierdłowowi. Ponad 40 proc. respondentów chciałoby, by w Mińsku pojawiła się ulica księżnej Diany.*

*W skorowidzu nazw ulic można znaleźć także nazwiska polskich bohaterów: Rokossowskiego i Bieruta. Bierut mieszkał w Mińsku do 1942 r. Pracował jako zaopatrzeniowiec kolaborującego z Niemcami urzędu miejskiego. Potem Stalin mianował towarzysza Bolesława prezydentem Ludowej Polski. Pomnik i ulicę w Mińsku ma też inny „wielki Polak" Feliks Dzierżyński. Obecnie przy ulicy Dzierżyńskiego powstał bar MacDonald'sa. Tak czy owak lepszy Dzierżyński z parującym hamburgerem niż dymiącym naganem.*

*Gazeta Wyborcza, nr 253*

* * *

*Białostocka polityka rozgrywa się na trzech ulicach. Przy Suraskiej 1 znajduje się kwatera „S", z głównodowodzącym Józefem Mozolewskim. Na Słonimskiej urzęduje prezydent miasta Krzysztof Jurgiel, działacz Porozumienia Centrum. Gdzieś w połowie drogi między Suraską a Słonimską przebiega ulica Kościelna. Jak nie trudno domyśleć się w tym miejscu znajduje się budynek Kurii, w którym metropolita białostocki abp Stanisław Szymecki namaszcza polityków prawicy.*

*W ostatnich latach przypisuje się Białemustokowi rolę Okopów Świętej Trójcy, kresowej stanicy. Dla nikogo nie jest tajemnicą, że najważniejsze decyzje są tu uzgadniane z abp. Stanisławem Szymeckim.*

*Kurier Poranny, nr 254*

* * *

*W swej przytłaczającej większości mieszkańcy Republiki Białoruś są Białorusinami tylko z nazwy, a w rzeczywistości ludźmi radzieckimi, pełnymi rzewnych wspomnień po niedawno minionych czasach (...). Czy my, mniejszość białoruska w Polsce, jesteśmi inni? Ależ skąd! Chociażby wyniki ostatnich wyborów parlamentarnych wskazują na to, że możemy równie precyzyjnie nazywać się mniejszością narodową... radziecką w Rzeczypospolitej Polskiej, zamiast białoruskiej (słowiańską — nijaką — po części już zostaliśmy...)*, — піша Сакрат Яновіч.

*Czasopis, nr 11*

* * *

*Сёння ў сталіцы Беларусі толькі крыху больш за 7 працэнтаў першакласнікаў вучыцца па-беларуску, у той час як у 1994 годзе ў пачатковых класах на роднай мове вучылася 80 працэнтаў школьнікаў. Лічбы сведчаць пра дыскрымінацыю беларускай мовы, але ў адказ на гэта мы бясконца чуем тэзы пра свабодны выбар.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 43*

* * *

*Nowy minister oświaty Mirosław Handke postanowił, że seks polski ma być biologiczny i religijny.*

*Gazeta Wyborcza, nr 256*

* * *

*Ludzie mówią: po zmianie regulaminu marszałek ogłosi, że każda sesja Sejmu rozpoczynać się będzie pieśnią „Kiedy ranne wstają zorze".*

*Polityka, nr 45*

* * *

*Наступны 1998 год стане трэцім годам эканамічнага росту*, — заявіў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.

*Народная газета, н-р 226*

Праўда пра эканамічны рост у Беларусі найлепш бачна, калі пабываць у краіне, якой кіруе сам Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка. Шчаслівы народ, які мае такога правадыра.

* * *

*Апошнія падзеі ў Беларусі прымусілі многіх гаварыць аб наступленні 37-га года. Міжволі ўзнікае пытанне: колькі гэты вэрхал будзе працягвацца? І якое можа быць з усяго гэтага выйсце? Адказы ўяўляюцца даволі туманнымі, але напэўна ў такім падвешаным стане грамадства доўга існаваць не можа. Яшчэ год раней можна было разважаць апаратную рэвалюцыю. Прэзідэнт рабіў выгляд, што надта перажывае за жыццё „простага люду", што ведае хто вінаваты ў яго беднасці — усё ў тым жа дэмагагічным духу. Але цяпер найлепей відаць, што непахіснутай асталася пазіцыя наменклатуры. Перастаноўкі фігур на палітычнай шахматнай дошцы закранулі толькі верхні эшалон улады. На абласным ці раённым узроўні ўсё асталося як у савецкую эпоху.*

*Свабода, н-р 120*

# З мінулага тыдня

**Славацкі ўрад** распрацаваў новую праграму дапамогі цыганам (ромам), якую па тэлебачанні прадставіў грамадству віцэпрэм'ер **Йосеф Кальман**. Засяроджваецца яна галоўным чынам на адукацыі і культуры. Славацкія ромы, якіх колькасць расцэньваецца ад 354 тысяч да паўмільёна, з'яўляюцца самай беднай грамадскай праслойкай. Ромскія дзеці ў традыцыйнай адукацыйнай сістэме практычна не маюць магчымасці закончыць у нармальным парадку школы, а тамашнія спецыяльныя класы (прызначаныя перш за ўсё для дзяцей з разумовай адсталасцю)ператвараюцца ў этнічныя гета.

**Георгє Фунар** — ультранацыянальны бурмістр румынскага горада Клуж быў з-за „недысцыплінаванасці" выключаны з радоў апазіцыйнай Партыі нацыянальнай еднасці Румыніі, якую сам заснаваў і якой быў лідэрам. Бурмістр вядомы быў як яры праціўнік 1,7-мільённай венгерскай нацыянальнай меншасці, якую абвінавачваў у імкненні далучыць Трансільванію да Венгрыі. Фунар выступаў супраць ужывання венгерскай мовы ва універсітэце і ўстановах, заахвочваў зрываць сцяг на венгерскім консульстве, а пасля падпісання румынска-венгерскага дагавора аб дружбе, сарганізаваў сімвалічнае яго пахаванне. Рашэнне аб выключэнні з партыі Фунар назваў змовай здраднікаў, якія поўнасцю падпарадкаваліся венграм.

**Ян Леанчук** — літаратар, перакладчык беларускай і арабскай літаратур, старшыня Беластоцкага аддзела Саюза польскіх літаратараў, стаў лаўрэатам сёлетняй узнагароды прэзідэнта горада Беластока ў галіне творчасці і распаўсюджвання культуры.

**Факультэты** сацыялогіі, псіхалогіі, беларусістыкі і фінансавай матэматыкі намерваюцца ў недалёкай будучыні адкрыць улады Універсітэта ў Беластоку. „Ва універсітэце маецца таксама месца для тэалогіі", — заявіў на прэс-канферэнцыі рэктар **Адам Ямруз**. Адной з найважнейшых інвестыцый улады новастворанай навучальнай установы лічаць пабудову бібліятэкі.

**У Бельску-Падляшскім** адбылася ўрачыстасць узнагароджання шлюбных пар, які пражылі разам пяцьдзесят і больш гадоў. У мясцовым загсе медалі „Za długoletnie pożycie małżeńskie" атрымалі 47 пар, з ліку якіх 46 пар пажаніліся 50, а адна пара — 60 гадоў таму.

**Элеос** — праваслаўны асяродак міласэрнасці — вядзе акцыю падкормлівання бяздомных і адзінокіх. Дармовым гарачым супам у святліцы Кафедральнага сабора ў Беластоку (вул. Ліповая 15, у гадз. 12-13) карыстаюцца некалькі дзесяткаў маламаёмасных асоб.

**Беластоцкі інстытут удасканальвання настаўнікаў** гасцяваў моладзь і настаўнікаў польскай школы ў Гродне. Госці мелі нагоду паслухаць даклад пра польскую літаратуру і атрымалі набор кніжак для кабінета польскай мовы.

**Беластоцкая СДРП** заклікала Управу рэгіёна прафсаюза „Салідарнасць" перадаць на карысць Універсітэта ў Беластоку пераняты ёю прафсаюзны будынак, якім да гэтай пары ўладаў ОПЗЗ. Заклік адрасатамі не быў адобраны.

**Dealer IV** — так называецца чацвёртая па ліку паліцэйская акцыя, якой мэтай з'яўляецца абмежаванне з'явы наркаманіі сярод школьнай моладзі. Паводле меркаваннаў паліцыі, у Беластоку няма ніводнай сярэдняй школы, якой моладзь не сутыкнулася б з адурманьваючымі сродкамі. У падставовых школах большасць вучняў прынамсі раз сустрэлася з наркатычнымі рэчывамі.

# Весткі з Беларусі

**Апазіцыянеры за кратамі**

Падчас святкавання 80 гадавіны кастрычніцкай рэвалюцыі ў Магілёве былі затрыманы актывісты апазіцыі. Адбылося гэта падчас дэманстрацыі, калі апазіцыянеры, якія стаялі асобнай групай, паспрабавалі разгарнуць лозунгі. Спачатку да іх падбеглі міліцыянеры ў цывільным, затым накінуліся амонаўцы. У выніку былі затрыманы сем чалавек.

**Гадавіна рэферэндуму**

Старшыня Вярхоўнага Савета РБ XIII склікання Сямён Шарэцкі ўзначаліў аргкамітэт па правядзенні мерапрыемстваў, прысвечаных гадавіне сумнавядомага лістападаўскага рэферэндуму 1996 года. Плануецца, што 23 лістапада а 12 гадзіне на плошчы Якуба Коласа збяруцца ўдзельнікі маніфестацыі. Яны маюць намер прайсці па праспекце Скарыны да плошчы Незалежнасці і правесці антыпрэзідэнцкі мітынг.

**Хатні арышт экс-банкіра**

Экс-старшыня Нацыянальнага банка РБ Тамара Віннікава 7 лістапада была вызвалена з арышту пад падпіску аб нявыездзе. У следчым ізалятары Камітэта дзяржбяспекі знаходзілася яна ад студзеня 1997 года па абвінавачаннях у злоўжыванні службовым становішчам, што прынесла ўрон дзяржаве, і крадзяжы маёмасці. Фактычна Тамара Віннікава знаходзіцца пад хатнім арыштам у кватэры свайго сына (і ў пад'ездзе, і ў самой кватэры кругласутачна прысутнічае ахова). Яе асабістае жыллё дагэтуль апячатана.

**Коласаўскія святкаванні**

З нагоды 115 гадавіны з дня нараджэння Якуба Коласа ў музеі народнага песняра ў Менску адбылася двухдзённая навуковая канферэнцыя ў рамках штогадовага свята „Каласавіны". Затым на радзіме паэта госці з Менска наведалі філіялы Музея Я. Коласа, прынялі ўдзел у адкрыцці мемарыяльнага знака „Чортаў камень" ва ўрочышчы Чартавіцы і выставы „Сымон-музыка" ў хаце на сядзібе Ласток.

**Забастовачная пагроза**

Арганізаваныя акцыі працоўных прадпрыемстваў радыёэлектронікі, а таксама аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання ў абарону сваіх правоў і інтарэсаў могуць пачацца ўжо ў лістападзе, — паведаміў прэс-цэнтр Беларускай незалежнай асацыяцыі прафсаюзаў прамысловасці. Такая пазіцыя работнікаў гэтых галін заснавана на крызісным стане вытворчасці. Галоўнае патрабаванне прафсаюзаў зводзіцца да стварэння неабходных умоў для стабільнай работы прамысловых прадпрыемстваў.

**З'езд праваслаўных парламентарыяў**

10 лістапада ў Менск з'ехаліся члены Сакратарыята Еўрапейскай міжпарламенцкай асамблеі праваслаўя з 15 краін кантынента, каб абмеркаваць надзённыя пытанні ўзаемадзеяння. На працягу трох дзён праваслаўныя парламентарыі сустрэліся са старшынямі палат Нацыянальнага сходу, прэзідэнтам Беларусі і мітрапалітам Філарэтам. Праваслаўныя парламентарыі Еўропы пабывалі таксама ў Полацку, дзе наведалі Сафійскі сабор і правялі гутарку з епіскапам Феадосіем.

**Адбудоўванне кантактаў**

Пашыраецца геаграфія парламенцкіх сувязей Беларусі, парваных у выніку мінулагодняга рэферэндуму. У палове лістапада дэпутат Антон Раманоўскі будзе ўдзельнічаць у жэнеўскай канферэнцыі па пытаннях уплыву чарнобыльскай катастрофы на навакольнае асяроддзе і чалавека. Па запрашэнні парламента Бельгіі ў гэтую краіну накіруюцца дэпутаты Сяргей Касцян і Збышэк Абяжын. Найбольш значным з будучых паездак можа лічыцца візіт парламенцкай дэлегацыі на чале са старшынёю Палаты прадстаўнікоў Анатолем Малафеевым на Кубу, запланаваны на сярэдзіну лістапада.

**Вяртанне Ластоўскага**

У Доме літаратара Міжнародны фонд „Беларускі кнігазбор" сумесна з Саюзам пісьменнікаў правялі вечарыну з нагоды выхаду чарговага тома „Залатой бібліятэкі Беларусі" — „Выбраныя творы" Вацлава Ластоўскага. У вечары прынялі ўдзел пісьменнікі Ніл Гілевіч, Кастусь Цвірка, даследчык Іван Саверанка, складальнік тома Язэп Янушкевіч, мастацтвазнаўцы і прыхільнікі творчасці Ластоўскага.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Расказ Пётра Байко пра белавежскага ведзьмара.
- Юбілей калектыву з Чыжоў.
- На Сакольшчыне жылі беларусы.

# Нашы мястэчкі і вёскі

**Гаспадарка і культура ў Чыжоўскай гміне**

Гміна Чыжы знаходзіцца ў паўднёва-ўсходняй частцы Беластоцкага ваяводства. Войт **Рыгор Мацкевіч** працуе ў гміннай адміністрацыі з 1975 года. Спачатку быў ён сакратаром гміны, а ў 1989 г. стаў начальнікам, а затым яе войтам.

— Гміна Чыжы, — расказвае Рыгор Мацкевіч, — паўстала з колішніх грамадскіх радаў Стары Корнін, Новае Беразова, Кленікі і Ласінка. Яе плошча — 13 420 гектараў. Састаўляюць яе 23 вёскі, які складаюць 18 салэцтваў. У гміне пражывае 3 222 жыхароў. У параўнанні з 1975 годам лік насельніцтва зменшыўся на 2 тысячы, а прычынай гэтаму была міграцыя моладзі ў гарады.

Характэрнай рысай гміны з'яўляецца ўраджайная зямля, пераважна III і IV класаў. Амаль усе палі ў нас меліраваны і дрэнажаваны. У 1994 годзе правялі мы водаправод у Асоўку, Койлы і Курашава, у 1995 — у Гукавічы і Ляшчыны, у 1996 — у Лушчы, Вульку, Вежанку і Падвежанку, а сёлета ваду атрымаюць жыхары Каменя і калёніі Буякоўшчына. Са сваіх сродкаў пачалі мы будаваць вясковую амбулаторыю ў Кленіках. Цяпер намагаемся атрымаць сродкі ад ваяводы і дзяржаўнага бюджэту, паколькі такія пабудовы знаходзяцца ў кампетэнцыі ўрадавай адміністрацыі. Год таму супольна з жыхарамі невялікай вёскі Шастакова, якая налічвае ўсяго 30 дамоў, здалі мы ў карыстанне будынак вясковай амбулаторыі.

Візіткай кожнай гміны з'яўляецца будынак лакальнай адміністрацыі. Раней сядзіба гмінных улад змяшчалася ў невялікім будынку (пры ГОКу), цяпер гмінная ўстанова перасялілася ў памяшканні былой ветэрынарнай лячэбніцы, але ўжо другі год вядзецца будова новага, сучаснага аб'екта па меры XXI стагоддзя.

У Кленіках пры 10-працэнтнай фінансавай падтрымцы сялян у верасні г.г. быў пабудаваны 1 км асфальтавай дарогі ў напрамку калёніі Слівава. 12 пражываючых там гаспадароў заплацілі па 5 млн. 400 тыс. зл. Больш-шасць дарог у гміне — гэта гравейкі і няма грошай, каб пакласці на іх асфальтавае палатно. 50% гміннага бюджэту паглынае школьніцтва. У нашай гміне працуюць тры школы: у Чыжах вучыцца 142 вучняў, у Кленіках — 121 і ў Курашаве — 48. У мінулым годзе купілі мы новы аўтобус. У школу ў Чыжах давозім дзяцей з Мора, Збуча, Шастакова, Асоўкі, Койлаў, Падрэчан, Ракавіч, Лядоў і Лушчы, у кленіцкую школу — з Сапава, калёніі Слівава, Гукавіч, а таксама з васьмі вёсак з тэрыторыі Нарваўскай гміны. Ва ўсіх трох школах дзеці вучацца беларускай мове.

У гміне дзейнічаюць дзве пажарныя каманды тыпу „С", якія могуць удзельнічаць у акцыях на тэрыторыі краіны. Астатнія каманды (у Збучы, Моры, Шастакове, Леневе, Камені) належаць да катэгорыі „М" — карыстаюцца толькі мотапомпамі.

У планах на будучы год прадугледжана пракласці водаправод у Падрэчанах і калёніі Кленікі, а ў пазнейшы тэрмін — у Ракавічах, Леневе і Лядах. Маем ужо гатовую дакументацыю для правядзення газіфікацыі.

Мы не ліквідавалі вясковых клубаў з-за іх нерэнтабельнасці, а толькі фінансава іх падтрымоўвалі. Дбаем пра клубы ў Моры, Збучы, Шастакове, Чыжах, Кленіках, Койлах, Курашаве і Камені, праводзім неабходныя рамонты. Не ліквідавалі мы і бібліятэк. Цяпер працуе ў нас гмінная бібліятэка ў Чыжах і філіял у Кленіках.

— Яшчэ два месяцы таму бібліятэка ў Чыжах, — гаворыць бібліятэкарка з 18-гадовым стажам **Галена Стоцкая**, — змяшчалася ў прыватных будынках. Цяпер займаем памяшканні Гміннай управы. Бібліятэка мае 140 чытачоў. Апрача польскай літаратуры маем чатыры шафы рускіх і беларускіх кніжак. Нядаўна купіла я зборнікі Віктара Шведа, нашага земляка. У чытальні можна прачытаць „Ніву", пастараемся таксама падпісацца на „Часопіс". Наш філіял у Кленіках змяшчаецца ў пажарным дэпо. Працуе ў ім Марыя Купрыяновіч, якая абслугоўвае 80 чытачоў.

Кнігазбор налічвае агулам 17 254 тамоў, у тым ліку 5 595 экземпляраў — гэта кніжкі для дзяцей. На закуп новых кніжак атрымалі мы толькі 1 500 зл. Бібліятэчнымі зборамі карыстаюцца дарослыя і школьная моладзь.

У нашай гміне працуюць тры беларускія фальклорныя калектывы. Найдаўжэй, бо дваццаць гадоў, спяваюць „Незабудкі" з Курашава. Пры Гмінным асяродку культуры, якім кіруе Юры Якімок, ужо дзесяць гадоў працуе калектыў „Чыжавяне". Наймалодшы калектыў — гэта „Збучанкі", у якім спявае 6 асоб, а апякуецца ім інструктар з Гродна.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

*Чыжы. Сядзіба перадавога земляроба Яна Адамчука.*



# Якая будучыня Белавежскай пушчы?

Гістарычныя і гаспадарчыя абставіны так склаліся ў Еўропе, што амаль усе нізінныя лясы былі высечаны або ў вялікай ступені зменены гаспадаркай чалавека. Лічыцца, што Белавежская пушча засталася адзіным еўрапейскім вялікім натуральным лясным масівам. Тут адзінае месца, дзе захавалася так многа старых дубоў, ясеняў, соснаў і іншых дрэў, якія пасадзіла і вырасціла сама прырода. У пушчы захавалася таксама і дзікая звярына — зубры, ваўкі, рысі, алені. Батанікі наглядаюць за разнароднай раслінасцю, насякомымі і птушкамі, якіх запаведнікі раскінуты па ўсім лесе. Пра багацце пушчы не трэба вучыць яе жыхароў, якія штодзень сутыкаюцца з прыгажосцю і незвычайнасцю лесу, а таксама карыстаюцца яго рэсурсамі: збіраюць грыбы, ягады, прывозяць дровы, або працуюць у лесе, які становіцца іх месцам працы.

Дыскусія паяўляецца тады, калі размова тычыцца лясной гаспадаркі ў будучым і спосабу аховы нашай пушчы. Жыхары прыпушчанскіх вёсак клапоцяцца пра свае месцы працы. Турбуюцца, што ў выпадку пашырэння запаведніка не будуць мець дроў для абагравання сваіх дамоў. Не турбуюцца ўжо пра дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы, раскінутыя вакол пушчы, якія найахвотней бачылі б яе як найбольш даступнай для сваіх працаўнікоў. Нашы самаўрады згодныя, што ахова пушчы патрэбная, але рознагалоссе паяўляецца тады, калі ідзе дыскусія пра спосаб яе рэалізацыі. Многія войты і радныя баяцца, што хуткае павелічэнне абшару запаведніка можа зменшыць грашовыя прыбыткі з лесу і пабольшыць беспрацоўе ў іх гмінах.

Іншай думкі прытрымоўваецца Таварыства аховы Белавежскай пушчы, якое паўстала ў кастрычніку 1995 года і гуртуе больш за шэсцьдзесят чалавек, у галоўным з Белавежы і ваколіц, але і таксама членаў з іншых частак Польшчы, з Галандыі і Вялікабрытаніі. Галоўнай мэтай Таварыства з'яўляецца паляпшэнне аховы ўсёй Белавежскай пушчы на польскім баку. На беларускім баку ўжо цяпер уся пушча гэта запаведнік (90 000 гектараў). На тэрыторыі Польшчы (з улікам гмінных лясоў) пушча састаўляе 65 000 гектараў, з чаго 10 400 гектараў уваходзіць у запаведнік, які рашэннем урада РП восенню 1995 года быў павялічаны на 5 150 гектараў. Апрача галоўнага запаведніка, у пушчы 21 меншых — флоры і фаўны, размешчаных на 1 500 гектарах. У галоўным ахоўваюцца ў іх розныя віды раслiннасці, насякомых і птушак. Таварыства супольна з Даследчым інстытутам лесаводства, Дзяржаўнай радай запаведнікаў і рознымі экалагічнымі арганізацыямі выступіла да польскага ўрада з прапановай паступовага павелічэння запаведніка. Пераконваюць яны, што такое рашэнне неабходнае для захавання натуральнага ляснога комплексу будучым пакаленням. Апрача экалагічнай адукацыі стараюцца яны пераконваць прыпушчанскае насельніцтва падтрымаць такую ідэю, інфармуючы пра станоўчыя рэзультаты такога рашэння для навакольных жыхароў.

— Запаведнік на ўсю Белавежскую пушчу, — гэта адзіны паратунак для лесу і людзей, якія там жывуць, — гаворыць Віктар Кабац, член управы Таварыства аховы Белавежскай пушчы, беларускі мастак, які пражывае ў Гайнаўцы. — Урад не толькі зацвярджае паўстанне запаведніка, але і дае грошы на яго ўтрыманне. Запаведнік сам выпрацоўвае 40 прац., а дзяржаўная датацыя састаўляе 60 прац. Там вялася б таксама санітарная высечка (да 10 прац. прыросту лесу), якую маглі б выкарыстаць сяляне для ацяплення дамоў. Цяпер у пушчы працуе прыблізна 2 000 чалавек. У запаведніку магло б працаваць 4 000 рабочых. Там жа патрэбная будзе ахова і санітарная праца. Турызм і агратурызм — гэта іншыя месцы працы. На двух турыстаў павінна працаваць 6 асоб. Замежныя турысты найбольш ахвотна шукаюць сялянскіх кватэр, якія неабходна было б прыстасаваць для гасцей. Мы — рэалісты і ведаем, што пашырэнне запаведніка гэта не справа аднаго года, але даўжэйшага часу.

Выказванні некаторых нашых жыхароў і прадстаўнікоў самаўрадаў наконт пашырэння запаведніка, зусім іншыя. Не вераць яны ў шчырасць дзяржавы, а лепшым лічаць тое, што пэўнае. Безумоўна, турызм — гэта вялікі шанц для жыхароў нашага слабаразвітага гаспадарча рэгіёна. Дрэнныя прыпушчанскія землі не ў змозе вытрымаць канкурэнцыю з добрымі заходнімі землямі і вялікімі гаспадаркамі. Старанні нашых самаўрадаў прыцягнуць капітал не даюць чаканых вынікаў, а беспрацоўе на вёсках штораз большае. Незалежна ад канцэпцыяў аховы Белавежскай пушчы, бо ўсе ў гэтым згодны, што яна патрэбная, неабходным з'яўляецца супрацоўніцтва прыпушчанскіх гмінаў у развіцці турызму. Прадбачаныя новыя гасцініцы ў Белавежы, гэта толькі першы крок, за якім маглі б пайсці і іншыя гміны. Самаўрады павінны знайсці грошы на больш эфектыўную рэкламу нашага рэгіёна, бо пакуль што Таварыства аховы Белавежскай пушчы робіць гэта бясплатна і не толькі ў Польшчы, але і па-за яе межамі. Белавежская пушча — гэта натуральны скарб, які мы павінны сцерагчы не толькі для сябе, але і для іншых, а за дыскусіяй наконт яе аховы павінны ісці рэальныя крокі.

**Аляксей Мароз**

<u>У Нараўчанскай гміне</u>

# Павольная смерць крамаў

У колішняй вёсцы Лука і ў Тарнопалі-калёніі над Семяноўскім вадасховішчам красавалі прыгожыя беласценныя крамы нараўчанскага ГСу. Прайшоў нейкі час. І вось знеслі вёску Луку, але будынак крамы астаўся на беразе. Ну, зараз толькі шкілет будынка. Цяпер у ім няма ні акон, ні дзвярэй. Вырваны са сцен — як кажуць, жыўцом — электраўстаноўка і вадасцёкавыя трубы. Вандалы, а можа звычайныя грабежнікі, раструшчылі таксама ўнутраныя сцены. З іх усяго адзін друз... А на сценах і нават на стале надпісы — „насценная паэзія".

Не ў лепшым стане таксама былая крама ў Тарнопалі. Тут яшчэ два гады таму было двое дзвярэй. На падлозе валяецца куча друзу, пустыя бутэлькі, слоікі і кансервавыя бляшанкі.

На душы робіцца моташна, калі гляджу на вышэйзгаданыя крамы. Успамінаю былога прэзэса ПЗГСу Кастуся Майсеню, неўтаймаванага будаўнічага такіх аб'ектаў ва ўсёй Гайнаўшчыне. Ніколі б раней і ні з кім ён не згадзіўся б, што можа так усё скончыцца.

Нараўчанскі ж ГС існуе! Дык чаму ж такі лёс наканаваны гэтым крамам?

**Янка Целушэцкі**

# Беларусы і масоны

*(працяг;
пачатак у папярэднім нумары)*

Выбух вайны толькі ўзмоцніў нацыянальныя нелады між братамі. Падчас Канвента расійскага масонства, які адбыўся на пачатку лістапада 1914 г., з расейцамі перамовіліся М. Ромер і А. Луцкевіч, якія прадстаўлялі віленскую арганізацыю. Пастулат аўтаноміі зямель былога Вялікага княства Літоўскага, пастаўлены Ромерам, не знайшоў падтрымкі расійскіх братоў, сярод якіх пад уплывам поспехаў на фронце пераважалі экспансіяніцкія памкненні. Сакратар брацтва Аляксандр Керанскі (які на пачатку вайны як такі прыязджаў у Вільню) заклікаў да „вайны да пераможнага канца". Падобна паводзілі сябе іншыя расійскія браты. Ромер у сваёй прамове сказаў, што ўрапатрыятычная прапаганда не можа мець поспеху сярод нацыянальных меншасцей і палякі лічаць, што трэба намагацца як найхутчэй скончыць вайну. Падтрымаў яго Луцкевіч, паказваючы, што Беларусь у выпадку прадаўжэння вайны можа стаць яе плацдармам, што пагражае знішчэннем беларускаму насельніцтву.

У адказ А. Калюбякін, адзін з галоўных кадэцкіх дзеячаў, кінуў у адрас Ромера словы: „Вы і вашы Габсбургі", намякаючы на польскія легіёны ў Галіцыі. Ромер пратэстуючы заўважыў, што ён сам усё ж такі не сказаў бы ў адрас якога-небудзь з расійскіх братоў „Вы і вашы Раманавы". На гэтым інцыдэнт закончыўся, але ён добра характарызуе настроі сярод братоў.

Не абышлося без інцыдэнтаў і ў Вільні. Вось, напрыклад, Шаноўны брат Ромер прыкмеціў у прамовах літоўцаў Булоты і Слежавічыуса на сходзе 10 сакавіка 1915 г. „пробліск нацыяналізму", хаця прыкрывалі яго дэмакратычнай дэмагогіяй. Літоўцы хацелі аўтаноміі літоўскай тэрыторыі з Вільняй і сумежнымі землямі, якія да этнаграфічнай Літвы „цягнуцца", пад умовай сцвярджэння гэтай „цягі" шляхам плебісцыту. З падобнымі пастулатамі неяк не маглі згадзіцца беларусы. Гэтыя пытанні ўсплывалі заўжды, калі прыходзіла да гутаркі аб аўтаноміі.

Нічуць не лепшыя былі браты палякі. У гутарках сярод польскіх дэмакратаў у Вільні, праводжаных усю восень 1914 г., рашуча выйграла г.зв. незалежніцкая арыентацыя. Яе прыхільнікі спадзяваліся на федэрацыю Літвы з Польшчай пасля перамогі легіёнаў Пілсудскага. Для гэтай канцэпцыі спрабавалі пераканаць літоўскіх дэмакратаў. Размовы ішлі ў Вільні і ў Варшаве масонскімі каналамі і закончыліся фіяскам вясною 1915 г., бо літоўцы адмовіліся.

Не чакаючы выніку перагавораў з літоўцамі ўжо ў лютым 1915 г. польскія масоны стварылі ў Вільні падпольную арганізацыю, якая падтрымоўвала акцыю Пілсудскага, і як галоўны лозунг мела федэрацыю незалежнай Літвы (відаць — гістарычнай, з Беларуссю) з незалежнай Польшчай.

М. Ромер наогул падаўся ў легіёны Пілсудскага. Трызніў, што будзе там заступнікам справы літоўскай дзяржаўнасці. Такім чынам А. Калюбякін, дакараючы Ромера „вашымі Габсбургамі" недалёкі быў ад праўды, хаця трэба сказаць, што Ромер адмовіўся прысягаць на вернасць Габсбургам і ў 1917 г. выступіў з легіёнаў (у час г.зв. „прысягавага" крызісу, у выніку якога Пілсудскі папаў у турму).

Апошняй праявай дзейнасці віленскіх масонаў у расійскіх умовах быў удзел Булоты і А. Заштаўта ў канвенце ў Пецярбургу на пачатку чэрвеня 1915 г.

У верасні 1915 г. Вільню акупавалі нямецкія войскі. Некаторыя з братоў падаліся ў бежанства, іншыя, следам за М. Ромерам, пайшлі ў легіёны Пілсудскага. Напрыклад, уцекачом стаў І. Краскоўскі, а легіянерам — Я. Багушэўскі, швагер Каруся Каганца. Масонскую дзейнасць спрабаваў прадаўжаць Юргіс Шаўліс, які з астаткаў колішніх ложаў стварыў адну. Паводле Ромера (якога тады ў Вільні не было), неўзабаве Шаўліс у выніку недаразуменняў з братамі Луцкевічамі перастаў склікаць сходы, рашыўшы прыпыніць дзейнасць ложы, значыць, „усыпіць" яе. Пакуль да гэтага прыйшло, прынята была пастанова аб сепарацыі ад Вялікага Усходу Народаў Расіі і стварэнні асобнага Вялікага Усходу Літвы і Беларусі.

Як падаў А. Луцкевіч у сваіх паказаннях, у снежні 1915 г. у Вільні праведзены было шэраг беларуска-літоўскіх нарадаў з удзелам некаторых польскіх і яўрэйскіх дзеячаў. Ад беларусаў удзельнічалі ў іх браты Луцкевічы, Ластоўскі і Сямашка, ад літоўцаў — Шаўліс і Стэпанас Кайрыс, ад яўрэяў — Г. Ром і д-р Шабад, ад палякаў — А. Заштаўт. Падчас тых нарадаў абмяркоўвалася пытанне палітычнай будучыні літоўска-беларускіх зямель занятых немцамі. Вырашана было змагацца за аднаўленне на тых землях Вялікага княства Літоўскага як супольнай літоўска-беларускай дзяржавы, якая гарантавала б усе правы іншым тутэйшым нацыянальнасцям. Удзельнікі нарады завязалі Канфедэрацыю Вялікага княства Літоўскага. Паведамленні аб стварэнні Канфедэрацыі надрукаваныя былі на мовах беларускай, літоўскай, польскай і ідыш.

Паколькі ўсе ўдзельнікі нарадаў былі масонамі, можна здагадвацца, што нарады былі сходамі ложы створанай Ю. Шаўлісам, а Канфедэрацыя Вялікага княства Літоўскага — эманацыяй Вялікага Усходу Літвы і Беларусі, які мусіў скрывацца як ад уладаў, так і ад грамадства.

Разыходжанні між Ю. Шаўлісам і Луцкевічамі ўзніклі, як заўжды між літоўцамі і беларусамі, на нацыянальна-дзяржаўнай глебе. Ю. Шаўліс вёў перамовы з немцамі ад імя Канфедэрацыі. У гэтых размовах штораз больш адстойваў выключна літоўскія інтарэсы, адсоўваючы ад іх беларусаў. На канец прымкнуў да агульналітоўскай палітычнай плыні стварэння этнічна незалежнай літоўскай дзяржавы са сталіцай у Вільні. Дык няма дзіва, што ложу Вялікі Усход Літвы і Беларусі давялося „ўсыпіць".

*(працяг будзе)*

**Алег Латышонак**

# Балканскі кацёл

У днях 7-10 лістапада 1997 г. у сталіцы Балгарыі Сафіі праходзіла канферэнцыя, арганізаваная структурамі Савета Еўропы і прысвечаная нацыянальным меншасцям у сярэдняй частцы нашага кантынента. Асноўнай тэмай былі праблемы адукацыі меншасцей у Балгарыі, Венгрыі, Румыніі, Славакіі і Польшчы. На канферэнцыю прыехалі пасланцы ўлад гэтых краін і міжнародных арганізацый, якія займаюцца аховай правоў меншасцей, ды прадстаўнікі саміх нацменаў. Разглядаліся стан заканадаўства ў паасобных краінах і існуючая там рэчаіснасць. Апрача Польшчы ва ўсіх астатніх краінах сярэдняй Еўропы меншасці складаюць даволі вялікі працэнт грамадства. Іх адносіны з большасцю, як высвятлілася ў ходзе канферэнцыі, ёсць вельмі складаныя. Не заўсёды палітыка ўлад ідзе насустрач чаканням меншасцей і не заўсёды меншасці ўлічваюць інтарэсы дзяржаў, якіх самі з'яўляюцца грамадзянамі.

Найчасцей у апошніх гадах улады краін сярэдняй Еўропы стварылі вельмі карыснае для сваіх меншасцей заканадаўства. Праблема ў тым, як падкрэслівалі самі зацікаўленыя, што яно астаецца найчасцей толькі на паперы, для адводу вачэй ураднікаў усялякіх міжнародных устаноў. І гэта відаць было падчас канферэнцыі. Толькі палякі набожна не хвалілі нацыянальнай палітыкі сваіх улад. Астатнія, нават калі прадстаўлялі міжнародныя арганізацыі па справах аховы правоў меншасцей, заяўлялі, што ў іх краінах усе праблемы вырашаюцца вельмі паспяхова. Калі, аднак, выступаюць нейкія цяжкасці, тады іх прычынай бывае эканамічны стан краіны.

Амаль невырашальнай праблемай гэтага кутка Еўропы сталася сітуацыя ромаў. У Балгарыі жыве іх звыш шасціста тысяч, у Румыніі — амаль два мільёны, у Славакіі — амаль пяцьсот тысяч. Сярод цыганоў найбольш беспрацоўных, таму яны, шукаючы сродкаў для праіснавання, часта парушаюць законы. Амаль дзевяноста працэнтаў ромскіх дзяцей не ходзіць у школы, ствараючы такім чынам праблемы ў будучым. Часта балгарскія, румынскія, венгерскія, славацкія, польскія бацькі пратэстуюць супраць прысутнасці ў класах ромскіх дзяцей. Прысутныя на канферэнцыі цыганы гаварылі, што без павышэння стану адукаванасці сваіх суродзічаў немагчымае нармальнае сужыццё з большасцю.

Румынскія і славацкія венгры пераконвалі прысутных, што ў іх ёсць свая нацыянальная адукацыйная праграма і зусім ім непатрэбнае навучанне румынскай ці славацкай гісторыі і геаграфіі. Выглядала на тое, што не надта нават хочуць яны ведаць мову большасці грамадзян сваё краіны. Калі я расказаў пра сітуацыю ў галіне адукацыі беларусаў у Польшчы, балканцы не маглі зразумець, чаму беларусы, якія жывуць у адным ваяводстве, горадзе, мястэчку не маюць школ ці прынамсі класаў са сваёй мовай навучання, калі законы гэтага не забараняюць. Было гэта дзіўна асабліва таму, што канферэнцыя прыняла тэзіс, што імя і мова акрэсліваюць тоеснасць кожнай адзінкі. Але як тут растлумачыць замежнікам, што беларускіх Пшэмкаў, Робертаў, Чаркаў, Анджэлікаў, Агнешкаў, Бэаткаў ніхто і нічым не здолее прымусіць вучыцца матэматыкі на беларускай мове. Ніхто не зразумее таксама, чаму гмінныя газеты, адрасаваныя да беларускага ў большасці грамадства, друкуюцца на польскай мове, або чаму самаўрады ў сваёй працы не выкарыстоўваюць роднай мовы. Але як тут зразумець народ, які сваім прэзідэнтам выбірае чалавека заяўляючага пра намер ліквідаваць сваю дзяржаву, мову, нацыянальныя сімвалы.

**Яўген Міранові́ч**

# У чым заключаецца пазітывісцкая праца?

Тыдзень за тыднем праходзіць маланкава. Не так даўно былі выбары, а ўжо прэзідэнт Квасьнеўскі прыняў прысягу ад новага ўрада. Спадар Вапа, кандыдат у паслы, даходзіць да вываду, што без пазітывісцкай працы ў беларускім асяроддзі „шанцаў на самастойнае ўвядзенне беларускага прадстаўніка ў парламент на сённяшні дзень няма". Факт. Але ў чым мае праяўляцца гэта праца? Ці толькі ў арганізацыі фэстаў? А можа ў дапамозе беларусам у гаспадарчай ці асветніцкай дзейнасці? Як думае ставіцца спадар Вапа і Беларускі саюз да прапановы Мікалая Лук'янюка, каб лідэры селі за круглы стол? Пэўна ўжо такую мэблю М. Лук'янюк рыхтуе. Каб сустрэцца, трэба добра да такога спаткання прыгатавацца і пакінуць у баку ўсе прэтэнзіі да іншых. Не ведаю, ці для Яўгена Чыквіна беларускасць ляжыць на сэрцы так, як славяншчына? Пытанні, пытанні, пытанні. Папраўдзе, хто мае на іх адказаць? Не маем сапраўднага лідэра, якому на сэрцы ляжыць нашае тут існаванне, а не левым ці правым дэмакратам, якім ненавісць не засляпляла б вачэй, а эмоцыі розум адбіралі б. Каб атрымаць поспех на выбарах (вясной новыя выбары), трэба існаваць у грамадскай свядомасці. Але як можна існаваць у свядомасці, калі спадар Вапа не існаваў сваімі думкамі на старонках „Нівы". Ніякіх тэкстаў, ні думак. Папраўдзе, каб не асабістыя кантакты, не ведаў бы я, кім з'яўляецца лідэр Беларускага саюза. А такіх, якія не ведаюць яго, тысячы і яны свае галасы аддалі на кагосьці іншага.

Чым з'яўляецца БС — саюз беларускіх арганізацый? Каго ён гуртуе? Калісь, калі па вёсках жылі настаўнікі, якіх штогод выпускаў Педагагічны ліцэй у Бельску (з беларускімі класамі), можна было пры іх дапамозе арганізавацца. І па вёсках былі гурткі БГКТ. А цяпер? Фактычна няма нават адзінак, вакол якіх гуртавалася б грамадскае жыццё ні ў вёсцы, ні ў мястэчках і гарадах. Існуюць пры гмінах асяродкі культуры, але іх дзейнасць заключаецца ў тым, каб раз у год дапамагчы сарганізаваць спадару Сычэўскаму фэст і выслаць калектыў на Фестываль беларускай песні.

Можа нехта спрабуе адазвацца, калі я ўдарыў у стол...

**Міхась Куптэль**

# Ушануйма нашых слаўных землякоў

Кожны народ стараецца ўшанаваць памяць сваіх сыноў, якія ўславілі свой народ сваёю дзейнасцю, ставіць ім помнікі, а на дамах памятныя мемарыяльныя дошкі. Мы, беларусы Беласточчыны, маем такіх слаўных сыноў. Трэба нам памятаць пра Усевалада Ігнатоўскага, нашага першага пакутніка, гісторыка, дзяржаўнага дзеяча БССР, аўтара „Кароткага нарысу гісторыі Беларусі". Гэты яго твор зрабіў непахісным наш беларускі народ. Паходзіў Ігнатоўскі з вёскі Такары, што ў паўднёва-ўсходняй частцы Беластоцкага ваяводства, паблізу мяжы Польшчы і Беларусі. Ён у нас зусім забыты. Не знаю, ці жыхары Такароў ведаюць, што ў іх вёсцы нарадзіўся і жыў слаўны сын беларускага народа. Добра было б, каб у вёсцы Такары адбыўся наш беларускі фэст, каб наша моладзь арганізавала туды свае рэйды. Падумайма пра гэта.

**Францішак Бернікові́ч**

# Паляўнічыя і зайцы

## або *Назойлівая рэклама*

Калі мы шпацыруем вуліцамі вялікага горада (неабавязкова цэнтральнымі) і ў нас ёсць нічым не абмежаваная магчымасць назірання, то нам у пэўны момант можа здацца, што апынуліся мы ў зусім іншай краіне або нават у каляровым фільме. Пачынаем уяўляць сабе, што ў рэшце рэшт перанесліся мы ў свет дзіцячай фантазіі і мараў.

А ўсё гэта за справай рэкламных стэндаў, якія стаяць і вісяць амаль усюды. Некаторыя з іх усаджаны ў такія месцы, што, здаецца, звычайна туды б чалавек не глянуў. Аднак іх каларыт, майстэрства выканання (не ўсіх), а часам і змест прымушаюць кінуць на іх вокам хаця б на хвіліну. Яны проста атакуюць, маняць, вабяць. Такая ўжо іх задача: нагнаць сваёй фірме кліента, прымусіць яго, быццам бы зайца, накіравацца ў сетку або пад дубальтоўку паляўнічага. А ўжо найболып па-майстэрску ўладжаны і зроблены стэнды, на якіх рэкламуюць ці не найбольшую атруту нашых часоў — цыгарэты. З іх вітаюць нас героі дзіцячых гульняў і ўяўленняў і даюць пэўную надзею апынуцца там, дзе нармальнаму смяротніку толькі мроіцца пабываць. І калі нават розум нам падказвае, што курачы папяросы мы хутчэй перанясемся ў Краіну Вечных Ловаў, то рэкламныя хітруны і героі пераконваюць, што толькі смаліўшы, скажам, „М...", можна пабачыць Дзікі Захад, сустрэцца з сапраўднымі індзейцамі, стаць на нейкі час каўбоем, а яшчэ і пракаціцца на шыкарным, бліскучым джыпе маркі „Крэйслер". І мы пачынаем сумнявацца. А калі яшчэ задаволены жыццём каўбой са стэнда таямніча прыжмурыўшы вочы аб'явіць нам, што можам мець на ўласнасць такую цудмашыну, тады ўжо няма ніякіх хістанняў. Мы проста ведаем: толькі вострая язда з „М..." гарантуе экстра прыгоды, а можа і жыццё. І нават папярэджанне міністра здароўя і сацыяльнай апекі, напісанае няхай і самымі вялікімі літарамі, не пахісне чалавечай веры ў лепшае ў ягонай шэрай штодзённасці. Яно (папярэджанне) у спалучэнні з такімі „кайфовымі візіямі" ў час і пасля курэння „М..." здасца нам нават смешным.

Іншыя маркі заходніх папяросаў стараюцца не астацца за „М..." далёка ззаду. Дарэчы, іх „заходнясць" прамінула, як прамінулі часы валютных крамаў і сякога-такога сацыялізму і яны цяпер з'яўляюцца агульнадаступным дабром (?) і ў дадатку нават выпускаюць іх у Польшчы, аднак, так іх яшчэ ўспрымаем. І ўсур'ёз — іх сялібы-маткі недзе за акіянам, а яны па-буржуйску багатыя. А калі так, дык намагаюцца стаць яшчэ багацейшымі. І яны гэта ўмеюць зрабіць — у іх вялікі вопыт і капітал. Капітал — гэта не толькі грошы, але і мы. А паколькі




іхнія кліенты-зайцы або атруціліся, або сталі крыху мудрэйшымі за сваіх паляўнічых і пачалі рабіць на іх нагонкі, яны развіваюць сеткі тут. Тут вядома — гуляй душа. І яны дзейнічаюць: з дапамогаю герояў рэкламных стэндаў і з гарантыямі нечага сапраўды незвычайнага стараюцца схапіць нас. Адны вабяць зусім пазазямнымі прыгодамі ў дзікіх, недаступных джунглях, другія — такімі ж — на афрыканскіх пустынях, трэція — адпачынкам на поўным моры ў акружэнні зграбных і гатовых на ўсё дзяўчат. Ёсць там і бландзінкі, і брунеткі, і рудыя, здаецца, таксама лашчацца. Выбярэш „С..." — адчувай сябе свабодным і сапраўдным мужчынам, выбярэш „В..." — перабірай ў дзеўках, і г.д. Мы толькі мусім курыць, курыць і яшчэ раз курыць. І не мусім пераймацца міністэрскім лозунгам, бо калі нават прымусім сябе прачытаць яго, дык здасца ён нам яшчэ больш недарэчным, чымсьці хвілінку раней. Перад чым жа перасцерагае нас нехта ананімны, які невядома ці і сам не курыць і не збіраецца, скажам, на сафары. Пра якую шкоднасць ён гаворыць, калі з плакатаў глядзяць на нас здаровыя, прыгожыя, задаволеныя і, здаецца, вечна маладыя людзі? Кожны з іх курыць тое, што любіць і нават зубы ў іх белыя-бялюсенькія.

Рэкламныя стэнды, якія захваляюць польскія папяросы, выглядаюць крыху збяднелымі. Яны, пэўна, яшчэ не маюць такога вопыту ў заваёўванні новых кліентаў-ахвяр, а мо спецыялісты па рэкламе ў іх горшыя? Напэўна, ёсць і іншыя прычыны іх сціпленькіх магчымасцей, каб заахвоціць, з興віць і прывязаць да сябе. Яны пакуль што адкідаюць метад спакушвання казачнымі сцэнарыямі і райскімі агародамі. Аднак перспектывы, напрыклад, шахматных сутычак з даўганогімі паненкамі ці вогненнага кахання (з такімі ж) на капоце няхай і слабенькага, але ўсё ж такі аўтамабіля, настолькі марочаць нам галаву, што і тут мы ледзь заўважаем лозунг: курэнне тытуню з'яўляецца прычынай рака і хвароб сэрца. Нахабнасць і паўсюднасць заклікаў-папярэджанняў даюць нам упэўненасць, што гэта ён ёсць нашым галоўным шкоднікам і ворагам. Гэта ён увесь час прабуе затармазіць, перашкодзіць, каб у канцы выцясніць з нашага жыцця шчаслівыя хвіліны. А міністр паказваецца нам як труслівы або недавучаны чалавек. Бо чаму ж ён не скажа непасрэдна, што гэта папяросы шкодзяць, а накіроўвае нашу ўвагу і злосць на менш шкодныя цыгаркі (імі ж нельга нават парадачна зацягнуцца) і люльку. У гэтакі спосаб міністр губляе рэшткі свайго аўтарытэту і мы пачынаем яго падазраваць у не зусім ясных кантактах з вытворцамі папяросаў.

Пасля такога падарожжа, няхай і каротката, але ўпрыгожанага вялікай колькасцю каляровых спакус перастаюць нас здзіўляць чароды вучняў ў прышкольных кусціках, якія з асалодаю смаляць усе магчымыя маркі папяросаў, быццам бы ў гэтым бачаць толькі нейкі сэнс. Яны, напэўна, таксама як і мы, хочуць сустрэцца з індзейцамі, тыграмі, стаць каўбоямі і дакрануцца да прывабных дзяўчат. Ведаем таксама, што лепш курыць папяросы з гістарычна замацаванай маркай. Яны проста даюць нам большыя магчымасці і сваёй лёгкасцю ўзнясуць нас вышэй. І хаця дакладней вычысцяць нашу кішэнь і пахіснуць здароўе, дык нездарма гаворыць, што калі падаць, то з сапраўднай вышыні.

І нават калі некурэц наглядзіцца на ўсё гэтае, то і ў яго вокамгненна з'яўляецца ахвота пазабаўляцца (асабліва з рудзенькай) і ён хутчэй прэ і шукае краму з папяросамі, каб закурыць „В...". Ён і так шчаслівы, бо пачынае з гэтых амаль самых дарагіх. А ў курца рэдка бывае так, што засмакаваўшы найлепшых (цьфу) і найдаражэйшых перакідаецца ён на самыя танныя. Тут працэс толькі ў адзін бок, скажам, прагрэсіўны. І калі ён ужо закурыць самы дарагі і задумае закінуць гэту дурніцу (значыць, не пракаціўся на ніякім джыпе, ані з ніякай бландзінкай, а толькі пачуў пах пораху з вінтоўкі), яму будзе зрабіць гэта прасцей. На жаль, вельмі рэдка такія справы канчаюцца ўдачай — часцей ягоныя паляўнічыя хітрэйшыя і мацнейшыя. Зусім няшчасны ўжо той чалавек, які стараецца быць ашчадным (вядома, на грошы, а не на здароўе). Ён, пачынаючы з самых танных, пераўжыве шмат расчараванняў, пакут і нечаканасцей. Такому настойліваму курцу і выпрабавальніку можа не хопіць нават часу, каб усё праверыць і развеяць усе ілюзіі і спадзяванні. Бо як усім напэўна вядома, адна папяроса робіць карацейшым наша жыццё на некалькі хвілін.

**Яўген Бялькевіч**

PS. Усім спецыялістам па рэкламе ў тытунёвых біржах хачу прыпомніць, што г.зв. пасіўнае курэнне больш шкоднае. Думаю, што лозунг „Будзь актыўны!" зробіць гэту гульню яшчэ больш цікавай і вясёлай.

# Тут жывуць прыгожыя людзі

[1 ☞ працяг]

ту Ваяводскай управы Казімеж Дэркоўскі, і новы Генеральны консул Рэспублікі Беларусь Мікалай Крэчка, які ў Беластоку ўсяго месяц, і саветнік Пасольства РБ у Варшаве Уладзімір Сакалоўскі, і прадстаўнік Міністэрства культуры РБ Міхась Слізкі, ды іншыя.

Трэба ж падзякаваць і артыстам-самадзейнікам („Гэта не толькі свята „Маланкі", але і яе заснавальніка Сяргея Лукашука"), і Міністэрству культуры Беларусі, і ўсім тым, што прымалі ўдзел у падрыхтоўцы касцюмаў („Хаця нашым артыстам, праўду кажучы, яны і непатрэбныя: такія тут прыгожыя жанчыны і мужчыны, што маглі б спяваць нават у абычым", — жартуе бурмістр). А таксама трэба ж уручыць Сяргею Лукашуку памятны дыплом.



*Ардэнаносец Сяргей Лукашук.*

Пасля першага выступлення „Маланкі" (сем жанчын, чатыры мужчыны і капэла народных інструментаў — пяць асоб) — на сцэну ўваходзяць маленькія дзяўчынкі з Лукашуковай „Журавінкі", якія, хаця пачалі рэпетыцыі толькі ў верасні гэтага года, бойка спяваюць песні „Добры вечар" і „Дылі-дон". А пасля выступаюць ужо цалкам нічога сабе дзяўчаткі з яго ж „Дзявочых нотак".

Малайцы, вы там у Бельску! Так трымаць! Гэта ж насенне, з якога разрасцецца „Маланка".

Нездарма Уладзімір Сакалоўскі, саветнік Пасольства Беларусі ў Варшаве, сказаў: „Беласточчына — прыгажэйшы край і тут жывуць прыгожыя людзі". Праўду сказаў.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

Адгалоскі

# Дзякуй Барыславу Рудкоўскаму

Я вельмі люблю чытаць дописы інжынера Барыслава Рудкоўскага з Бельска-Падляшскага. Мяне захапляе ў іх так майстэрства слова, як і глыбіня думкі. Інжынер валодае рэдкай умеласцю прыдаваць кожнай дробнай праяве жыцця вялікае значэнне. Іншы пройдзе каля нечага, здавалася б, малаважнага, і нават не прыкмеціць, што яно наогул існуе. Але не сп. Барыслаў! Яму ўсё дае штуршок для глыбокага роздуму, рэфлексіі. Відаць тут душу вялікага філосафа! Чытаючы напісанае Б. Рудкоўскім, чалавек проста ўліпае ў газету. А закончыўшы чытанне, доўга яшчэ задумваецца над закранутымі аўтарам тэмамі.

Майстэрства слова Б. Рудкоўскага заключаецца, думаю, перш за ўсё ў тым, што ён нічога лішняга не піша. У яго тэкстах няма сказаў, з якіх нічога не вынікае. Аўтар патрапіць пры дапамозе некалькіх слоў рассмяшыць або і прымусіць пусціць слязу. Ён не толькі філосаф, але і дасканалы гумарыст. Наскольні з найменшай дробязі выцягне глыбокую думку, так з таго самога патрапіць пасмяяцца. Ён зручна ўкладвае ў свае дописы анекдоты, якія потым доўга памятаюцца.

Для напісання гэтых слоў прымусіў мяне тэкст Барыслава Рудкоўскага „Апошняя сустрэча", змешчаны ў „Ніве" № 45 ад 9.XI.1997 г. Ён мяне ўзрушыў да слёз. Столькі ў ім чалавечай уражлівасці! Тут адкрываецца яшчэ адна прыкмета аўтара — вялікая ўражлівасць на акружаючы свет, прыроду, людзей. Таму і гэтак лёгка можна ўразіць яго. Перш за ўсё незразуменнем ягонай далікатнай душы. Мучаецца тады сп. Барыслаў. Ад беспадстаўных, непрадуманых і найхутчэй дурных дакораў. Я аб гэтым добра ведаю.

Цаню я інжынера і за яго надзвычайную працавітасць, вынаходлівасць. Цаню таксама за вялікую працу, якую укладвае ў распрацоўку тапаграфіі наваколля, у якім жыве. Хаця ён і не ўраджэнец нашай зямлі, але зрабіў для яе столькі, што безумоўна заслужыў на тое, каб звацца яе сынам. Ён пакіне на гэтай зямлі трывалы, каштоўны свой след.

Дзякуй Вам, сп. Барыслаў, што жывяце сярод нас!

**Пётр Байко**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**Віктар ШНІП**

## Наш Максім

Наш Максім гаворыць: — Гу!
Гэта значыць: — Я магу!
Што ж наш можа немаўля
Ён раскажа нам пасля,
Бо цяпер гаворыць нам:
— Мама, ам, дай, мама, ам!

# Гульні многаму вучаць

Ужо другі раз „Зорка" мела гонар гасцяваць у першакласнікаў Пачатковай школы н-р 4 у Беластоку. Наша рэдакцыя атрымала запрашэнне на „Свята восені".

Мерапрыемства адбылося 3 лістапада г.г. За акном дуў халодны вецер, ляпіў мокры снег. Але ў класнай зале пахла яблыкамі і печанымі пірагамі. Усхваляваныя дзеткі чакалі сваіх гасцей. Для іх хацелі яны паказаць свае новыя веды, спазнаныя на ўроках беларускай мовы.

Зараз пабольшала навучэнцаў. Дайшла Магда Карчэўская. Яна, як і астатнія — Натальку Швед, Мая Більмін, Эля Юшчук, Міхась Каліна і Караль Заборскі, старанна вывучае родную мову.

Усе бацькі прыйшлі палюбавацца сваімі першакласнікамі. Некаторыя нават усёй сям'ёй. Сярод публікі сядзелі малодшыя сёстры і брацікі выступаючых. Прысутнічаў таксама дырэктар школы Збігнеў Клімовіч і выхавацелька Ева Бэата Данейка.

Гадзіннае выступленне праляцела незаўважна. Дзеці спявалі, дэкламавалі вершы, паказалі пастаноўку беларускай народнай казкі „Дзедава рукавічына", дыдактычныя гульні.

— Літары будзем вывучаць у другім класе, — кажа Аліна Ваўранюк, настаўніца беларускай мовы. — Зараз вяду ўрокі паводле маёй аўтарскай праграмы.

Справа ў тым, што не існуе ў нас праграма для першага класа. На Беласточчыне ўрокі роднай мовы пачынаюцца з другога класа. Настаўніца карыстаецца некаторымі метадамі для навучання польскай мовы ў першым класе. Самай асноўнай справай з'яўляецца знаёмства з моўным слоўнікам. Менавіта гуляючы ў гульні, пастаноўкі, спяваючы песенькі і вывучаючы вершы дзеці многаму вучацца. Пасля іх выступлення кожны пераканаўся, што добра яны ўжо ведаюць назвы дрэў, гароднінi, колераў. Да таго і вымаўленне беларускай мовы ў іх дакладнае і амаль натуральнае. Здзіўляе гэта, бо палова дзяцей не хадзіла ў беларускае прадшколле. Гульні навялі вясёлы, гарачы настрой. Малодшыя


*Гульня ў „Рэпку".*

сястрычкі і брацікі падключыліся да супольных гульняў. Публіка не шкадавала бурных воплескаў. Аліна Ваўранюк прыдбала нават музыканта. З Бельска прыехаў Дарафей Фіёнік з гітарай. Пад яго музыку дзеткі спявалі песні калектыву „Журавінка".

Бацькам, а таксама „Зорцы", вельмі падабалася „Восеньскае свята". У некаторых вачах блішчэлі слёзы радасці.

— Я то і не ведаў, што так прыгожа і весела можна вучыць беларускай мове, — сказаў Пятро Юшчук.

**Зорка**
*Фота Ганны Кандрацюк*


*Памятны здымак з бацькамі, дырэктарам школы (сядзіць трэці злева) і выхавацелькай класа (другая ў другім радзе).*


*Дзеці з ПШ н-р 4 у Беластоку і Аліна Ваўранюк (настаўніца беларускай мовы); побач настаўніцы стаяць: Караль Заборскі, Міхась Каліна, Натальна Швед, Магда Карчэўская, Эля Юшчук і Мая Більмін.*

# Францыск Скарына
## альбо *Як да нас прыйшла кніга*

**У Італіі**

У Італіі, у адным з найстарэйшых у свеце Падуанскім універсітэце ёсць славутая „Зала сарака". На покуці стаіць зробленая з тоўстых дошак, сёння паточаная ўжо шашалем трыбунка-кафедра. Яна памятае, як некалі тут чытаў лекцыі Галілей. Цяпер на гэтым месцы стаіць бюст геніяльнага вучонага.

На сценах універсітэта скрозь памятныя знакі — эмблемы, гербы славутых родаў. Падуанскі універсітэт з гонарам ушаноўвае тых вялікіх, хто вучыўся альбо вучыў тут. Ды чаму не ганарыцца: адно такое імя, як Капернік ці Галілей, шмат што кажа ўсяму адукаванаму чалавецтву.

На сценах універсітэта — эмблемы...

Але ў „Зале сарака" ўжо не эмблемы, а сорак вялікіх партрэтаў слаўных і найслаўнейшых. Сярод іх другі ад покуці, каля кафедры Галілея, — Францішак Скарына.

Так за тысячы кіламетраў ад Беларусі, у далёкай Італіі, ушаноўваецца памяць аб нашым першадрукару Францыску Скарыне.

Менавіта са Скарынавых рук без мала пяцьсот гадоў таму назад усходняе славянства атрымала першую друкаваную кнігу.

Каб уявіць веліч гэтай падзеі ў гісторыі нашай радзімы, згадайма, якой была

**Кніга даўней**

У старажытныя часы яна была зусім непадобная да нашых.

На чым толькі не пісалі даўней людзі! На ўсім, што больш ці менш прыдавалася да пісьма.

Вы, пэўна, чулі, што гадоў з дзесятак таму назад у Беларусі пры раскопках старажытнага Віцебска знайшлі запісы, зробленыя на бяросце — бярозавай кары.

Даўней шмат якія надпісы высякалі на камянях, выціскалі на гліняных плітках.

Уявіце сабе цаглінку таўшчынёю ў два пальцы. Сотні такіх цаглінак і ўтваралі старадаўнюю кнігу. А паспрабуй такую кнігу палажыць у ранец. Ды што кнігу! Часам каб пераслаць якое пісьмо, і то трэба было збіраць у дарогу цэлы караван вярблюдаў. Адзін нумар часопіса „Вясёлка", „надрукаваны" на такіх таблічках, павёз бы хіба грузавік. Але ж грузавікоў у тыя часы не было...

Нязручная — ці няпраўда — такая кніга? Толькі адна перавага была ў яе: ніякі пажар ёй не страшны. А колькі ж цудоўных кніг згарэла пасля на свеце ў агні войнаў! А за тое, што праз тысячагоддзі ацалелі, дайшлі да нас запісы, зробленыя на гліняных таблічках, трэба дзякаваць полымю. Цаглінкі абпаліліся і сталі яшчэ больш трывалыя...

*(працяг будзе)*

**Анатоль Клышка**

# Паездка ў Беларусь

На пачатку верасня ў нашай школе пачалі гаварыць пра паездку ў Беларусь. Сабралася многа ахвотных. Моладзь вельмі хацела паехаць, але яе энтузіязму не падзялялі бацькі. У канцы верасня было ўжо вядома, што паедуць трыццаць чатыры асобы. Чакаючы 23 верасня моладзь вельмі хвалявалася.

Нарэшце прыйшоў доўгачаканы дзень. З бельскага беларускага ліцэя вырушыла экскурсія ў Беларусь. Дарога была доўгай і цяжкай, а ў пансіён мы даехалі вельмі стомленыя. Аднак кожны з нас меў яшчэ многа энергіі, каб пабачыць новае месца. І сапраўды, было на што глядзець. Пансіён знаходзіўся над прыгожым возерам Свіцязь. Навокал — цудоўныя краявіды. Мне вельмі спадабалася гэтая зямля. Яна крыху напамінала наш рэгіён і адначасова было ў ёй нешта іншае, чароўнае і таямнічае.

На наступны дзень чакала нас вельмі многа ўражанняў. Пасля снедання мы паехалі ў сельскую школу ў Валеўку. У старым будынку школы знаходзіўся музей, які паўстаў дзякуючы настаўнікам і вучням школы, а таксама пры дапамозе навакольных жыхароў. Вучаніцы школы пазнаёмілі нас з гісторыяй Гродзенскай зямлі. Апошнюю частку дня мы правялі ў падарожжы па наваколлі возера Свіцязь. Мы пабачылі царкву і наведалі замак у мястэчку Мір, які калісьці быў уласнасцю Радзівілаў. Таксама многа помнікаў мы пабачылі ў горадзе Нясвіж. Там мы аглядалі касцёл, замак і санаторый. Дзякуючы экскурсаводам мы пачулі вельмі многа легенд і паданняў гэтай зямлі. На жаль, час уцякаў і нам трэба было вяртацца ў пансіён. Нягледзячы на стому, наша моладзь яшчэ доўга гуляла на дыскатэцы з новымі сябрамі з-за ўсходняй мяжы.

На апошні дзень экскурсіі мы заехалі ў Навагрудак. Там наведалі музей Адама Міцкевіча, вядомага паэта трох народаў: польскага, беларускага і літоўскага. Экскурсавод дэталёва пазнаёміў нас з гісторыяй дома дзяцінства паэта, а таксама вельмі многа мы даведаліся аб жыцці Адама Міцкевіча. Мы пабачылі, што бацькаўшчына Міцкевіча — гэта сапраўды цудоўнае месца на зямлі, якое было сведкай многіх здарэнняў і аб якім кружаць легенды і паданні.

Цяпер, калі сяджу за сталом, у сябе дома, у Бельску, і ўспамінаю гэтую экскурсію, бачу перад сабой краявід Беларусі. Перад маімі вачыма стаяць усе гэтыя замкі, цэрквы, касцёлы, а перад усім бачу цудоўнае, таямнічае і поўнае легенд возера Свіцязь. Цяпер ужо разумею, чаму гэтая зямля з'яўляецца маці многіх пісьменнікаў.

Я вельмі задаволена, што мела магчымасць наведаць радзіму Адама Міцкевіча. Думаю, што не толькі ў мяне такія ўражанні.

Дзякую ўсім за сарганізаванне паездкі, а перш за ўсё Аблана (Куратор) у Гродне, дырэкцыі ды настаўнікам з Валеўкі і дырэктару пансіёна „Свіцязь".

Люцына Данілюк

# Міфы старой Беларусі

**11. Дамавік**

Беларусы ўяўлялі Дамавіка ў выглядзе змея, чалавека, старэнькага дзядка. Павер'і звязаныя з гэтым бажком настолькі разбудаваныя, што трэба нам прывесці некалькі варыянтаў. Зараз прадставім запіс этнографа П. Дземядовіча з канца XIX стагоддзя.

Дамавік мае вобраз змея, ён па паходжанні таксама амаль што змей. Дамавіка можна сабе прыдбаць. Для гэтага трэба пеўня, які заспявае на трэці дзень пасля выхаду з яйка. Пеўня гадаваць трэба сем гадоў. За гэты час ён знясе маленькае яйка, якое зашываем у мяшочак і носім пад пахаю шэсць месяцаў.

У знак падзякі за прытулак Дамавік будзе прыносіць гаспадару дастатак. Дамавік звычайна жыве ў каморы, у падпечку і вылазіць адтуль толькі на Дзяды. Ён удзельнічае ў агульнай вячэры. Пры гэтым яму аказваюць вялікую пашану. Дарогу з каморы да стала высцілаюць белым палатном, прапануюць яму самыя лепшыя стравы.

— Сяляне расказвалі мне, — піша Дземядовіч, — што Дамавік з'яўляецца ў выглядзе кудлатага сабакі. Дамавіка можна яшчэ ўбачыць у Вялікі чацвер. Дзеля гэтага трэба прыйсці з царквы з запаленай свечкай і падацца на гарышча. Там абавязкова будзе ляжаць Дамавік у выглядзе голага чалавека. Тады трэба чым-небудзь накрыць бажка. Узамен Дамавік папытае чалавека пра яго патрэбы.

Дамавік любіць калі ў гаспадарцы падабрана ўсё пад яго густ. Тады ён старанна дапамагае гаспадару. У адваротным выпадку Дамавік прыносіць шкоду, заездквае ўначы коней, кароў. Вялікае значэнне ў гэтых адносінах мае месца пабудовы дома. Перад пабудовай гаспадар павінен зрабіць наступную спробу: у чатырох месцах, дзе прыблізна будуць вуглы дома, насыпаць жыта. Калі праз ноч жыта акажацца некранутым, то гэта прыкмета, што Дамавіку падабаецца абранае месца. У выпадку, калі жыта акажацца разграбаным, значыць, Дамавік супраць пабудовы ў гэтым месцы. Гаспадар павінен пашукаць іншае месца. Калі ён не паслухае Дамавіка і пабудуе хату, то бажок помсціць яму. Ён будзе ўначы з трэскам і грукатам разгульваць па доме і псаваць у ім рэчы.

*(працяг будзе)*




*Мал. Ані Бачынскай і Аліны Сіроцкай.*

# Конкурс, конкурс, конкурс!

*(н-р 7)*

*(літаратурныя гульні)*

Адкажыце на пытанні. Адказы дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Аўтары правільных адказаў могуць выйграць цікавыя беларускія кніжкі. **Увага!** У конкурсе могуць прыняць удзел ліцэісты. Просім адзначыць свой узрост.

1. У якіх універсітэтах вучыўся Францыск Скарына?
2. Хто з'яўляецца аўтарам слоў: „Не пакідайце мовы сваёй роднай, каб не ўмёрлі"?
3. Назавіце аўтара паэмы „Ён і яна".
4. Назавіце зборнікі паэзіі Надзеі Артымовіч.
5. Хто з'яўляецца аўтарам зборніка легенд „Белавежскія быліцы і небыліцы"?

**Адказ на літаратурны конкурс н-р 3 („Зорка" н-р 43)**

1. Сапраўднае прозвішча Янкі Лучыны — **Ян Неслухоўскі**.
2. **У Кракаве**, 24 верасня 1988 г. па ініцыятыве Юрыя і Алега Латышонкаў быў адкрыты надмагільны помнік беларускаму паэту **Алесю Гаруну** (сапраўднае прозвішча паэта — Аляксандр Прушынскі).
3. **Мікола Гусоўскі** напісаў славутую „Песню пра зубра" на **лацінскай мове**.
4. **У Беластоку** дзве вуліцы названы імёнамі класікаў беларускай літаратуры — **Янкі Купалы і Якуба Коласа**.
5. Аўтарам зборніка паэзіі „Ракіта" з'яўляецца паэт, селянін з Тарнопаля, што ў Нараўчанскай гміне, **Уладзімір Гайдук**.

Узнагароду, **кніжку Сакрата Яновіча „Dolina pełna losu"** выйграла **Мажэна Сахарчук** з Беластока.

Віншуем!

## Вершы Віктара Шведа

### На геаграфіі

Географ у класе  
Тлумачыць розніцу часу.  
— Поўдзень у нас, ці паверыце,  
Раней чым у Амерыцы.

Чаму так, хто адкажа?  
Адказвае Казік:  
— Таму, менавіта,  
Што яна пазней адкрыта.

### Парадокс

— Парадоксаў розных шмат  
Маем у жыцці наўкола.  
Можа нешта акурат  
Прыгадаеш нам, Мікола?

— З маёй шчотачкі зубной  
Выпадаюць валасочкі,  
А ў расчосцы галаўной  
Паламаліся зубочкі.

## Пішуць школьнікі

**Вітай, „Зорка"!**

Хачу табе расказаць пра восень у маёй вёсцы Катоўцы. З дрэў апалі жалуды, каштаны і лісце. Пад дрэвамі расцелены каляровы дыван. Ляжыць там жоўтае, чырвонае, зялёнае, карычневае, аранжавае лісце. Усе людзі выкапалі бульбу. Ходзяць таксама ў лес збіраць грыбы. Часам раніцай паяўляецца невялікі прымаразак. Гаспадыні робяць розныя кампоты і варэнні на зіму. Мая мама зрабіла ўжо варэнне са сліў і кампоты з яблык, груш і сліў. У агародзе людзі выкопваюць агародніну. Адляцелі ў цёплыя краіны птушкі.

Восень — вельмі цікавая і каляровая пара года.

**Ірэна Драўноўская**

**ПШ у Новым Корніне**

# Польска-беларуская крыжаванка № 47

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Biedak / Pierścionek | ▼ | Rzeka | Krótka mowa powitalna za stołem | Niemen / Cena | ▼ | Noga / Nowy | ▼ | Róg |
| ▶ | | ▼ | ▼ | ▼ | | ▼ | | ▼ |
| Pomoc | ▶ | | | | | | | |
| Okinawa | ▶ | | | | | | | |
| Głąb | ▶ | | | | | | | |

**Адказ на крыжаванкі н-р 43:**

Крыжаванка Касі Леанюк: **Перадавы вучань.**

Польска-беларуская крыжаванка: мір, роды, рама, фотаздымак, тыран, сажа, рот, боты, дар, мыза, рыс, мана, рака.

Узнагароды, **аўтаручкі маркі Pilot FASTRAK FINE**, выйгралі: **Юліта Гайко, Анджэліка Сельвясюк, Марта Пухальская** з Бельска-Падляшскага, **Ірэна Дрэўноўская** з Катоўкі і **Артур Свентахоўскі** з Гайнаўкі.

Віншуем!



Талон „Зоркі" № 47
23.11.1997

**Аляксандр Максімюк**

# Тэарэтык

У Тэарэтыка было замілаванне — радыёпрыёмнікі. Ён сам, як і ягоныя знаёмыя, не звязваў гэтага са сваёй прафесійнай працай. Ніхто таксама не падумваў пра гэта ў якасці збачэнства. Вось, так па-просту — на кватэры ў Тэарэтыка былі тры радыёпрыёмнікі, па адным у кожным пакоі.

Тэарэтык быў наогул праблемовы чалавек, а гэта абазначала, што ад сваіх праблем ён не мог адцерабіцца ўсё жыццё. Клопат Тэарэтыка пачынаўся на працы. Ён не паспяваў распачаць новы тыдзень у радыёвяшчанні, як яго пачыналі адтуль звальняць. Пісьменніку — сябру Тэарэтыка — колькі разоў даводзілася бачыць яго маркотную постаць з неадчэпным „Дай ты мне чысты спокуй, у мяне паважныя праблемы". Фрустраванасці Тэарэтык пасрэдна набіраўся ад цыцатых супрацоўніц, на якіх ён пакутніцка пазіраў кожны дзень, а канкрэтна на іх кароткія шаўковыя сукенкі, што шчыльна прылягалі да ўзгібаў жаноцкага цела, а пры кожным яго руху нёсся ціхі шэлест далікатнай тканіны. Тэарэтык не мог паўстрымацца, каб не даследаваць лініі станіка, які надта ж выразна адзначаўся з-пад гэткіх рэсурсаў сучаснай моды, а ўжо да крайняй знямогі даводзіла яго, калі не знаходзіў адзнакі майтак, хаця б і скупых. Спакутаваны пасля працяглага дня працы ён вяртаўся дахаты і, як умеў найлепей, разраджваў нагрузку стрэсу. Звычайна ён запрашаў да сябе знаёмага і выпіваў з ім бутэльку. Часамі Паэт або Пісьменнік апыналіся ў кампаніі Тэарэтыка, дык не сакрэт, што на адной бутэльцы пераважна не кончылася. Такі разрад напругі прынцыпова спараджаў новую праблему — гіганцкае пахмелле, прачмухацца з якога абазначала ачнуцца ў такім жа, але рэальна ўжо новым пахмеллі. Уся працэдура, закрэсліваючы поўны круг, выдатна спрацоўвала ды рухалася сілай унутранай логікі нейкае паўгода. І вось, здавалася Тэарэтыку, падыходзіў час, каб наадрэз адбіцца ад сваіх праблем — ён браў два тыдні водпуску ды клаўся ў бальніцу дзеля медыцынскага абследавання. Ён нават палюбіў шпітальны пасяк, няспешнае снаўданне па калідорах, простыя і недвухсэнсоўныя анекдоты прыбіральшчыц а палове сёмай, геройскі перакур з пацыентамі аддзела лёгачных захворванняў, характэрны для бальніцы пах лізолу ці хрумст расціснутага пад падэшвай шлёпанца таракана. На жаль, бальніца зусім яго не супакойвала. Раздражнёнасць нахабна ўклінькалася ў шпітальнае жыццё Тэарэтыка ў тыя моманты, калі на аддзел заходзілі папрактыкаваўца студэнткі медыцынскага факультэта або навучэнкі апошняга класа ліцэя для медсясцёр. Першыя (надвор'е скварыла, не даючы і ценю надзеі на прахалоду) насіліся ў лёгкіх палатняных касцюмах з нагавіц і пінжака. Яны цікаўна прыглядаліся пацыентам ды ўважліва слухалі павучэнні спрактыкаваных стажорак. Звычайна гутарка зыходзіла на тэму дыягназу, а студэнткі і спрактыкаваныя стажоркі падыходзілі да прасторных вокнаў. Паваленны ў пасцель Тэарэтык — аб'ект навуковага доследу — бачыў пад святло штрыхі голых жаночых ног і нешта, што тлумачыў сабе як майткі з карункавымі лямоўкамі ўкруг сцёгнаў і бёдраў. Ён заплюшчваў вочы і мараваўся надалей думкай, быццам трусы руковыя і — мусова — празрыстыя. Зіхоткабелыя і да лубкаватасці накрухмаленыя фартухі медсясцёр-ліцэістак не прасвятляваліся пад сонца. Ні пад рэнтген, па-шпітальнаму жарталася ў думках Тэарэтыку. Да пацыентаў мелі яны больш практычны, чымся навуковы падыход. Прыбраць нячыстасці з-пад нямоглых, засунуць шпрыц у дупу або матам адагнацца ад інфантыльна капрызлівых старэчаў. Чым больш Тэарэтык любаваўся гэтай практычнасцю, тым больш разгойдваліся ягоныя нервы. Ён цялесна ўспрымаў павеў нездаровага флуіду ў амярцвелым паветры ад шпаркага маху гладкіх і пругкіх сцёгнаў пад накрухмаленым фартухом. Лубкаватае палатно ўзломвалася і шаргатала пры кожным тукі-тук. Яму падумалася і тое, што паводле шпітальнага рэжыму ў іх на нагах калготкі — мажліва, бліскучыя і слізкія, рыхтык у той афіцыянткі з пабу „Ало-Ало".

Тэарэтык наведаўся туды ў кампаніі Паэта і Пісьменніка. Пасля пятага куфля Тэарэтык адрозніваў Паэта ад Пісьменніка наступным чынам. Паэт скалаціў у сваім жыцці два геніяльныя вершы на літаратурны конкурс, у якім і перамог. Пісьменнік жа, за сваё жыццё не напісаў нічога геніяльнага дый не мог перамагчыся. Паэт-прафесіянал і на гэты раз займеў свае пяць хвілін у прыгожым пісьменстве, балазе Пісьменнік заўважыў — на паэтычны лад, — што ў калготках афіцыянткі магніт і бляск. Руку засунь ёй між сцёгнаў роўна, а іскраў навокал будзе поўна — прагучэла двухрадкоўе з трэціга і неўзнагароджанага ніякай камісіяй верша Паэта-лаўрэата.

Секс Тэарэтыкам заўсёды сузіраўся праз прызму жаночых грудзей ды іхніх практычных памераў. Найчасцей пік магчымасцяў Тэарэтыка вянчаўся ў тэлефоне у агенцтва сексуальных паслуг. Тэарэтык заўжды беспаспяхова дапытваўся там пра паненак з грудзьмі-шасцёркамі. Наконт гэтых шасцёрак погляды Тэарэтыка і Пісьменніка трошку разыходзіліся. Уява Пісьменніка ўвогуле не ўмяшчала такога нумара, але ён дасканала ведаў, што ягоная проза ў змозе даць ім рады. Часамі, пры ўздыме выключнай мужнасці, размова Тэарэтыка з агенцтвам сексуальных паслуг набывала і такі характар.

— Ало-ало, з паняй... можна ад заду?

— У вас на думцы анальны секс?

— Так, аральны — на хаду адказваў Тэарэтык.

— Са мною напэўна не, але запытаюся ў каляжанкі.

* * *

Пісьменнік і Тэарэтык зышліся пасля бальніцы. Пісьменнік зайшоў папытацца пра здароўе. Грукаць у дзверы давялося з паўгадзіны, але ён не здаваўся, бо ў дзвярным вочку бліснуў пункт святла, а з кватэры даходзіў прывідны гук чыйсьці хады ці проста прысутнасці. Ааа..., прывітаўся Тэарэтык. Ууу..., адказаў яму Пісьменнік. Прайшлі на кухню. Па дарозе Пісьменнік адзначыў, што ў кожным пакоі гарыць святло ды працуе радыёпрыёмнік. Кожны апарат прымаў іншую хвалю. На радыймай станцыі Тэарэтыка перадавалася багаслоўская гутарка па-польску. На ватыканскай частотнасці перадавалася такая ж гутарка па-беларуску. Трэці апарат лавіў мюнхенскую хвалю, але Пісьменнік не скеміў у чым справа, бо дзверы ў той пакой не былі прачынены. На кухні Пісьменнік з Тэарэтыкам дапілі рэштку з бутэлькі нуль-семдзесят-пяць. З блытанага расказу Тэарэтыка Пісьменнік зразумеў наступнае.

Бальніцу Тэарэтык пакінуў па сваёй пісьмовай просьбе. Адхіленняў ад нормы для трыццаці пяці гадоў у яго не выявілі. Тэарэтык у бальніцы пазнаёміўся з дзвюма студэнткамі-практыканткамі. Цыцкі ў іх былі не шасцёркі, але даволі прыстойных і практычных памераў. Практыканткі, пераапрануўшыся са службовых палатняных касцюмчыкаў у цесныя шаўковыя сукенкі, ахвотна згадзіліся правесці яго дадому. Па дарозе ўтраіх заскочылі ў начную краму, дзе ўзялі дзве вялікія пляшкі і буталь сэвен-ап. Тэарэтык расплаціўся візай, бо наяўныя рашыліся яму яшчэ ў бальніцы на цыгарэты і па канвертах — не хацеў спаць з тараканамі на калідоры. На кватэры Тэарэтык і абедзве практыканткі нарыхтавалі выдатную вячэру. Пакуль утраіх елі і распівалі гарэлку, Тэарэтык хваляваўся, а хваляванне ягонае спачатку абярнулася ў здаровую ўзбуджанасць, а затым у хвараблівую экзсытацыю, якая канчаткова яго і змарыла. Практыканткі актуальна з поспехам займаюцца лесбіянствам пад мюнхенскую частотнасць. Тэарэтык наглядаў за іхнімі дзеяннямі, але здаровая ўзбуджанасць ад гэтага не вярнулася. Пісьменнік павінен даць яму — Тэарэтыку — чысты спокуй, бо ў яго паважныя праблемы.

Пісьменнік з гэткай прапановай пагадзіўся, як і з тым, што ў Тэарэтыка сур'ёзныя праблемы ды сышоў. Ён сабе нават падумаў, што шэлест шоўку, бліскучыя калготкі, уяўны іскрапад, неўзнагароджанае двухрадкоўе і практычная шасцёрка неабходныя, каб дабіцца здаровай узбуджанасці ды не праваліцца ў хвараблівую экзсытацыю. Але як у адной хаце стрываць тры радыёпрыёмнікі на трох хвалях?

# Сіроцкае бежанства

— У бежанства падаліся мы, — расказвае мне 87-гадовы **Хведар Мукасей**, жыхар вёскі Свіслачаны, што ў Гарадоцкай гміне, — калі мне было чатыры ці пяць гадоў. Заехалі мы ў Бугульму, бацьку забралі на фронт, мама наша памерла яшчэ да выезду, і мы — трое дзяцей — асталіся з дзедам. Бедна там нам жылося, дзед хадзіў з намі і прасіў міласціну. Бывала, зойдзем пад нейкі двор, а там перад намі брамку закрываюць. Тады дзед мяне кіем, кіем! А бывала так таму, што калі мы, дзеці, гулялі, я качаў каго слабейшага ад мяне і забіраў яму яго ежу. Дык тады, калі дзед з намі падыходзіў пад брамку, тое пакрыўджанае мною дзіця закрывала перад намі брамку, ну і дзед ужо ведаў, з якое гэта прычыны.

Калі ўспыхнула рэвалюцыя, дзед аддаў нас у *прыют*, а неўзабаве сам памёр. Асталіся мы амаль сіротамі, бо ж бацька на фронце быў. У *прыюце* хадзілі мы ў школу: зімою вучыліся, а летам хадзілі палоць агароды. Палолі, дарэчы, усё, апрача жыта. На нашым *прыюце* павесілі вялікае палотнішча, пра нашу ўстанову, бо ўсе баяліся і „чырвоных", і „белых"; аднак ні адны, ні другія нас не чапалі. Калі бацька вярнуўся з фронту, забраў нас і мы выехалі на радзіму. Прыехалі цераз Баранавічы ў Беластавіцу. У Свіслачанах стаяла наша хата і гаспадарчыя будынкі. Цяжка нам не было, бо ў бацькі былі грошы і голад у нас не быў вялікі.

Незадоўга пасля вяртання бацька аддаў мяне, адзінаццацігадовага, аж пад Чыжэў, што каля Замбрава, за пастуха. Прыехаў быў такі пан і сказаў, што я там яму буду чатыры штукі пасвіць: дзве ялошкі і дзве каровы. Пасвіў я аднак аж сем штук, а да таго і парабкам яшчэ быў. Быў я там два гады, ніхто па мяне не з'яўляўся. Той пан дакладнага адрасу не пакінуў, і бацька, які два разы прыязджаў да мяне, не мог мяне знайсці. Аж у рэшце рэшт пані спытала, чаму гэта ніхто мною не цікавіцца. Ну і пан распытаў мяне, адкуль я; відаць не надта запамятаў, адкуль мяне браў. А і я ж не вельмі яшчэ цяміў, але сказаў яму: гміна Галынка, вёска Свіслачаны. Ён напісаў па гэтаму адрасу ліст, і бацька прыехаў і знайшоў мяне. Быў я ў вёсцы Расахатэ-Касцельнэ, сем кіламетраў за Чыжэвам. Калі яшчэ бацька аддаваў мяне, згадзіўся з панам, што за адну штуку дабытку за адзін год дасць мне па дваццаць пудоў жыта. Але ўжо пра тое жыта, калі забіраў, і мовы не было. Хацеў бы яшчэ туды калі паехаць, дзеля цікавасці: гаспадары мае ўжо напэўна не жывуць, але ў іх суседзяў нарадзіўся быў сын з выемкай у лобе; яны хацелі аддаць яго на ксяндза — гаварылі: зачэша, і выемкі відаць не будзе. Вось і хацеў я даведацца, ці яно так і стала ў сапраўднасці. Меў я яшчэ туды вярнуцца да другога гаспадара, але захварэў на адзёр і астаўся дома.

Пасвіў я яшчэ кароў у Ялоўцы і Страшаве, а калі ўжо вырас, стаў на працу. Спярша сезонна працаваў на чыгунцы, а пасля стаў на пастаянную працу ў Беласток лямец біць. Пасля на такую ж працу перанёсся ў Навагрудак, бо там больш плацілі. Калі немец напаў на Польшчу, вярнуўся я поездам у Ваўкавыск, а адтуль пяшком дадому. Вайну правёў я дома, працаваў на гаспадарцы, а пасля вайны зноў стаў на працу ў Беласток. У час вайны хадзілі у нас партызаны, але хутчэй зладзеямі яны былі, а не партызанамі. Адзін, вось, з суседняй вёскі хадзіў, прыйшоў са сваімі калегамі і ў нашу хату. Завярнуў шапку казырком назад і загадвае хлеб яму даваць. А я ж яго пазнаў, але нічога не гавару, бо і даваць ім што было забаронена і небяспечна. Дык ён забраў сам. Калі прыйшлі саветы, забралі яго ў армію і ён недзе загінуў.

* * *

Спытаў я яшчэ спадара Мукасея, ці ў час ягонага дзяцінства тадышнія старажылы гаварылі што пра нараджэнца суседніх Мастаўлян Кастуся Каліноўскага; яны ж, старажылы тыя, павінны былі нешта ж пра яго, такога слаўнага, нешта чуць. Не суджана было збыцца маім спадзяванням; мой субяседнік паінфармаваў мяне, што пра Кастуся Каліноўскага ніхто ў даўніну і не згадваў — загаварылі пра яго толькі пасля апошняй вайны. Пра тое ж спытаў я і мастаўлянскага старажыла — Васіля Валешчыка — з такім жа выследкам.

**Аляксандр Вярбіцкі**

**Я жадаю „Першацвету", каб ён не звяў, каб яго маразы не пабілі, каб яго быдла не затаптала, — сказаў Міхась Тычына.**

# Калі першацвет прабіваецца

— Які сёння дзень? — запытала паэтка Вольга Іпатава галоўнага рэдактара часопіса маладых літаратараў Беларусі „Першацвет" Алеся Масарэнку.

— Ну, сёння 29 кастрычніка 1997 года, пяцігодздзе нашага „Першацвету".

— А ці памятаеш ты, што гэта дзень усесаюзнага ленінскага камсамола?..

У Вялікай зале Дома літаратараў (ужо ўласнасць адміністрацыі Прэзідэнта РБ, а не Саюза пісьменнікаў Беларусі) сабралася народу шмат. Найперш — літаратурная моладзь (а друкавалася ў часопісе больш за 300 асоб), старэйшыя пісьменнікі і крытыкі, сябры беларускага слова. Алесь Герасімавіч, узрушаны да слёз, пaглядаў на сваіх гадаванцаў і супрацоўнікаў, успамінаў пачаткі гуртавання маладых творцаў (яшчэ ў „Чырвонай змене"), цешыўся тым, што ў такі цяжкі для ўсяе Беларусі час на беларускае неба Бог высыпаў такую магутную канстэляцыю зорак, розных па яркасці і велічыні, але якія застануцца. „Няхай сто з гэтых трохсот гэта сярэднія, ну, хай 3-4 — плагіятары, няхай пару графаманаў. Але сярод усіх ужо цяпер бачым 5-6 выдатных. А будучыня перад усімі".

„Першацвет" згуртаваў моладзь і дзяцей, якія прабуюць выказаць свае пачуцці і думкі на роднай мове. Прыходзяць у рэдакцыю і вучні пішучыя па-руску, напрыклад, з-пад Міра. І хоць іхныя вершы зрыфмаваны спраўна, пераконваюцца, што па-беларуску яны гучаць сапраўды шчыра і мацней. Сустракаюцца ў панядзелкі, дыскутуюць, кансультуюць, удасканальваюць. Часопіс стаў стайняй масцітых ужо літаратараў і крытыкаў, якія папоўнілі рады „сталых" літаратурных часопісаў, а тэкстаў змешчаных на старонках можа пазайздросціць, напрыклад, „Маладосць". Дае ён магчымасць (у „Гасцёўні") выказацца старэйшым калегам па пяру, адкрывае спадчыну, разглядае новымі і незакасцянелымі метадамі новыя і старыя выданні і творы. Дае месца і не зусім маладым аўтарам з глыбінкі, які яшчэ не мелі магчымасці друкавацца. А паглядзіце на здымкі — якія яны ўсе прыгожыя, тыя беларускія паэты! Міхась Тычына, вядомы крытык і выкладчык у беларускім ліцэі ў Менску, якога шмат навучэнцаў з добрым вынікам гасцюе на старонках „Першацвету", выказаўся і на гэтую тэму, тае прыгажосці, адухоўленасці ў выглядзе:

— Статыстка — рэч вельмі няпэўная (паклон у бок А. Масарэнкі). Паэт і празаік гэта творчая адзінка і сам ён цікавы сам па сабе. Максім Гарэцкі казаў пра „паэта ў душы". Сярод беларусаў шмат паэтаў у душы, нават калі яны не пішуць. Іх нават па тварах, па вачах пазнаеш. Я думаю, што сапраўднае дрэва можа вырасці толькі на нацыянальнай глебе. На пясочку, які недзе надзьмухала на даху ці на балконе можа вырасці толькі крывая бярозка. Нашы дзеткі павінны дзякаваць Богу, што існуе такі часопіс. Не было такога ў наш час, каб казалі: ідзі, нясі свае творы, там цябе сустрэнуць з радасцю, — маладога паэта, празаіка, крытыка. Сярод часопісаў вельмі цяжка зняйсці месца, усё як бы ўжо падзелена на квадраты, дзялянкі. А Алесю Масарэнку ўдалося, „Першацвет" заняў сваю нішу. Думаю, што 5 гадоў гэта не так сабе, бо псіхолагі лічаць, што якраз за гэтыя пяць гадоў чалавек вызначаецца ўжо амаль цалкам характарам, натурай і лёс яго можна ўжо расчытаць у гэтыя гады.



*Алесь Масарэнка з маладымі.*

Ім застаецца толькі адно — часцей вяртацца да пачатку, каб згадваць, з чаго яны пачыналі, „Крыніцу" — укладыш у „Чырвоную змену".

З „Пагоняй" на вокладцы „Першацвет" пратрываў бадай да 1996 года. „Ухаваўся". У кіёсках пабаяліся яго прадаваць, хавалі, здаваўся нейкай крамольнай БНФаўскай літаратурай. Мусова было мяняць. На вокладцы закрасаваўся іншы конік, крылаты Пегас. Такі вось час.

Міхась Тычына на занятках у сваім ліцэі (і яго будынак забірае адміністрацыя Прэзідэнта) зачытаў быў прозвішчы літаратараў, сярод якіх — Міхась Зарэцкі, Міхась Чарот, Цішка Гартны, Алесь Дудар, Анатоль Вольны... „Пра такое трэба нам помніць. Літаратура пражывае не толькі святы, але і такія чорныя даты".

Гэты тон прабіваўся і ў выказваннях іншых гасцей. Вольга Іпатава ўздыхнула: „Каб не прайшлі вы такі шлях як вашы папярэднікі", бо „слова не заўсёды ёсць бяспечным", „за слова трэба было плаціць". Заклікала: „Слухайце сябе, сваё сэрца, сваю душу. Не прадавайцеся. Не прадавайце сваё слова!"

Першы раз пасля доўгага часу на вечарыне ў Саюзе пісьменнікаў быў такі „люз". Цягнулася б яна да раніцы, але немагчыма было даць усім хоць хвіліну часу. А атрымалася ўсё гэта крыху па-студэнцку, вядома — маладыя. Анатоль Сыс паводзіў сябе на здзіў карэктна. Узнёс нават тост за „Першацвет". Толік, гэта ўжо іншае пакаленне пасля „Тутэйшых". А робяць яны сваю работу без шуму і крыку. Хіба што бараніцца трэба.

**Міра Лукша**

*Фота аўтара*

# Нашы карані

**CXI. Крывавая помста**

Праз два пакаленні, амаль пяць дзесяцігоддзяў пасля аб'яўлення ў 1596 годзе ў Брэсце уніі, з меншай ці большай напружанасцю на беларускіх і ўкраінскіх землях усцяж нарастала, мацнела і паглыблялася варажнеча паміж уніятамі і католікамі з аднаго боку і праваслаўнымі з другога. Да праваслаўных, іхняга духавенства, царквы і веры наогул адносіліся як да людзей найгоршай катэгорыі, ва ўсім імі пагарджалі. Рэлігійны прыгнёт узмацняўся непасільнай паншчынай, поўным бяспраўем працоўнага люду, самаволяй паноў над падлеглымі ім людзьмі, фізічнымі здзекамі, кампраметаваннем і праследаваннем усяго нацыянальнага ўкраінскага і беларускага: мовы, культуры, традыцый. Гэты духовы і фізічны ўціск даводзіў праваслаўных беларусаў і ўкраінцаў да адчаю. Адны з іх кідалі ўсё і ўцякалі ў праваслаўнае Маскоўскае княства, другія зрываліся на паўстанні, трэція ўцякалі ў стэпы паміж Донам і Днястром, на пагранічча паміж Рэччу Паспалітай і Турцыяй і станавіліся вольным людам — казакамі.

Пакуль жыў і па меры сваіх вельмі абмежаваных магнацкай і і шляхецкай самаволяй магчымасцей дзейнічаў кароль Уладзіслаў IV, які быў мудрым і талерантным уладаром ды часта станавіўся ў абарону праваслаўных, у Рэчы Паспалітай панаваў адносны лад і супакой. Гэта Уладзіслаў IV аднойчы ў адказ казакам на іхнія скаргі на крыўды з боку паноў адказаў: „А што? Вы пэўна забыліся пра свае шаблі, каб дабіцца справядлівасці?!" Аднак калі здароўе караля пахіснулася, і ён лёг на смяртэльным ложы, націск на праваслаўных адразу павялічыўся, і ў студзені 1648 года на Украіне ўспыхнула ўсенароднае паўстанне пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага — чалавека адукаванага і разумнага палкаводца, украінскага шляхціча, якога бацькі паходзілі з Беларусі. На працягу некалькіх месяцаў паўстанне ахапіла амаль усю Украіну і палову Беларусі, паўстала таксама Падляшша, асабліва востра выступіла насельніцтва Пабужжа, наваколле Драгічына і Мельніка, а таксама Бранска.

У паўстанне ўліліся сотні тысяч гатовых біцца на жыццё і смерць праваслаўных сялян, рамеснікаў, мяшчан, дробнай шляхты, духавенства. На сваім шляху яны змяталі ўсіх і ўсё, што было панскім, уніяцкім ці каталіцкім, пад шаблямі, сякерамі і нажамі гінулі паны, ксяндзы, манахі, палалі палацы, касцёлы, кляштары. Здавалася, што накопленая дзесяцігоддзямі крыўда, адчай і нянавісць залье крывёю і спапяліць пажарамі ўсю Рэч Паспалітую. Яе ўжо не было каму ратаваць дыпламатыяй, талерантнасцю і памяркоўнасцю. Год таму назад памёр у Кіеве выдатны царкоўны і дзяржаўны дзеяч, разважлівы мітрапаліт Пётр Магіла, а ў маі 1848 года памёр кароль Уладзіслаў IV — мудры правіцель.

На трон узышоў фанатычны католік Ян Казімір. Новы кароль, падобна як магнаты, шляхта, уніяцкая і каталіцкая іерархія лічылі, што *паўстаўшую чэрнь трэба вынішчыць агнём і мячом ды засцёбаць на смерць бізунамі* і пасылаў супраць паўстанцаў адну армію за другой. Але паўстанцы разбівалі іх на голаў каля Жоўтых Водаў, Корсуні, Піляўцаў ды непераможна пасоўваліся на захад, на Варшаву. Іх радасна, як вызваліцеляў і збаўцаў сустракалі польскія паншчынныя сяляне і гарадская бедната, а праваслаўныя Драгічына на павітанне паўстанцкага атрада выйшлі з духавенствам, набожнымі спевамі, іконамі і харугвамі. Смяротна перапалоханы кароль, яго ўрад, магнаты раптам ацверазелі са свае напышлівасці і пачалі шукаць паратунку ў перамовах з Хмяльніцкім. Яго аграмадную армію каралеўскае пасольства сустрэла ўсяго ў 180 км ад Варшавы, у Замосці. Хмяльніцкі для згоды і суцішэння паўстання, між іншым, патрабаваў: не прымушаць праваслаўных пераходзіць на унію ці каталіцызм, яўрэяў і езуітаў выселіць з Украіны і Беларусі ў Польшчу, праваслаўны мітрапаліт кіеўскі павінен займаць месца ў сенаце нараўні з каталіцкім кардыналам, усе дзяржаўныя пасады на ўкраінскіх землях павінны займаць праваслаўныя. Спачатку гэтыя варункі былі прыняты польскім каралём, але як паўстанне крыху сцішылася, сейм адкінуў іх і рашыў далей весці вайну з казакамі. Тады казакі на чале з Хмяльніцкім падаліся пад апеку маскоўскага цара і ў выніку вайны з Масквою была страчана значная частка беларускіх зямель і ўся левабярэжная Украіна з Кіевам.

Такую страшэнную цану — каля мільёна забітых і закатаваных людзей ды амаль трэцюю частку тэрыторыі — заплаціла Рэч Паспалітая за фанатызм, нeталерантнасць і пагарду да праваслаўнага люду.

**Мікола Гайдук**

# XVI З'езд Брацтва

— Мы вымушаны выпрацаваць новыя прынцыпы дзейнасці. Арганізацыю напэўна падмацуюць штаты для дзеячаў. Сёння няма ў нас таго што раней энтузіязму, — кажа **Гжэгаж Падляскі**, былы старшыня Брацтва праваслаўнай моладзі ў Польшчы.

У днях 7—9 лістапада г.г. ва Уваскрэсенскім прыходзе ў Беластоку праходзіў XVI З'езд Брацтва праваслаўнай моладзі. Прыняло ў ім удзел 96 дэлегатаў з усіх епархій. Мэтай з'езду было падсумаванне мінулай, трохгадовай кадэнцыі. Удзельнікі (на здымку) абралі новыя ўлады. Пост старшыні зойме **Аляксандр Васілюк**, студэнт трэцяга курса інфарматыкі Беластоцкай політэхнікі.

Памяняўся і духоўны апекун арганізацыі. Айца **Лявонція Тафілюка** заступіў настаяцель Гарадоцкага прыхода **а. Мікалай Астапчук**. Новы апекун прывітаў сваіх братчыкаў на беларускай мове.

Другім беларускім акцэнтам з'езду было выступленне Дарафея Фіёніка, які паспяхова праспяваў аўтарскія песні. Песню пра Залешаны падхапіла зала.

Брацтва гуртуе каля пяці тысяч членаў. Самыя актыўныя аддзелы дзейнічаюць у Беластоку, Гайнаўцы і Сямятычах.

**Г. К.**, *Фота Ганны Кандрацюк*



# З Бельска

**Выстаўка**

У старой ратушы 6 лістапада была адкрыта выстаўка „Бельск-Падляшскі ў міжваенным дваццігоддзі". Паказваюцца на ёй здымкі даваеннага горада, прадметы, якімі тады карысталіся мяшчане, дакументы. Падаецца таксама інфармацыя пра рознанацыянальнае і рознаканфесійнае насельніцтва, пра цэрквы, школы і асяродкі культурнага жыцця гэтага павятовага горада.

— Я перш-наперш хацела перадаць тадышнюю атмасферу, — кажа працаўнік гарадскога музея, аўтар выстаўкі Хрысціна Мазурук. — Падабраныя намі экспанаты паказваюць як мага шырэйшы спектр жыцця даваеннага горада. Важнаю палічыла я таксама іх кампазіцыю, каб яны нагадвалі аўтэнтычнае месца, у якім калісьці маглі стаяць.

На выстаўцы можна пабачыць і аптэчную вітрыну, і столік гімназіста, і ручную помпу пажарнікаў, і працоўны стол бурмістра з бюстам маршалка Пілсудскага. Варта таксама прыглянуцца старым фатаграфіям. Можна, напрыклад, параўнаць званіцу царквы св. Мікалая з яе копіяй, пабудова якой канчаецца каля Пачатковай школы н-р 3.

Выстаўку можна глядзець да канца года. Асабліва цікавай павінна яна быць — як жывы ўрок гісторыі — вучням.

**Вуліцы**

Ад 7 лістапада ёсць у Бельску новыя вуліцы: Пагодная, Дворская і Тадэвуша Яроньскага. Пагодная адыходзіць ад Белавежскай, каля выезда на Гайнаўку, Дворская — у Студзіводах, дзе калісьці быў менавіта двор. Вуліца Тадэвуша Яроньскага — каля Пачатковай школы н-р 2, якой у 1926-39 гадах быў ён кіраўніком. Яроньскі загінуў з рук нямецкіх фашыстаў у 1943 годзе ў Піліцкім лесе.

Адмоўна гарадскія радныя паставіліся да двух гістарычных асоб: ксяндза Пятра Скаргі і Яна Пятранкі, які быў возным Бельскай зямлі ў XVII стагоддзі. Пятранка жыў на двары ў Студзіводах і тамтэйшыя жыхары прапанавалі назваць яго імем вуліцу, якая стала Дворскай. А ксёндз Скарга атрымаў адмоўную рэкамендацыю некалькіх камісій Рады і ўправа горада зняла сваю прапанову прысвойваць вуліцы яго імя.

Дзве існуючыя вуліцы: Браніслава Тарашкевіча і Яна Кілінскага рашэннем Гарадской рады сталі даўжэйшымі. Іх імёны былі нададзены новазабудаваным і яшчэ неназваным адрэзкам. **(ак)**

Адгалоскі

# Вакол школы ў Малінніках

З вялікім болем і збянтэжанасцю прачытаў я артыкул „Настроі вакол школы ў Малінніках" Міхала Мінцэвіча („Ніва" № 43 ад 26.10.1997 года). Так складаецца, што я з'яўляюся выпускніком гэтай школы з 1964 года. Будучы вучнем, я пазнаў у ёй беларускі алфавіт, навучыўся правільна складаць сказы на літаратурнай беларускай мове, пазнаёміўся з вешчунамі беларускай літаратуры, навучыўся дыхаць і думаць па-беларуску.

Школа ў Малінніках была пабудавана ў 1952 годзе грамадскім чынам. Нямнога людзей аспрэчвала сэнс пабудовы школы. Ніхто з бацькоў не пярэчыў навучанню беларускай мовы ў гэтай школе, хаця заўсёды быў гэта неабавязковы прадмет навучання.

Трэба ведаць спадару Мінцэвічу, што Маліннікі ляжаць на мяжы дзвюх культур — беларускай і украінскай і таму незразумелым для мяне з'яўляецца, што аўтару артыкула залежыць, каб гэтая мяжа пераважыла на карысць украінскай культуры. Што аўтар Міхал Мінцэвіч зрабіў, каб актывізаваць дзейнасць беларусаў у гэтай частцы Беласточчыны?

Я добра памятаю, як у 1966—1974 гадах журналіст „Нівы" Міхал Хмялеўскі прыязджаў у Маліннікі кожны тыдзень інспіраваць беларускую культуру. У гэты перыяд існаваў у Малінніках мастацкі калектыў, якога я быў членам. Пастаянна праводзіліся сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, былі сарганізаваны тры рэгіянальныя беларускія фэсты.

У мяне складаецца ўражанне, што пускаючы ў друк такія артыкулы, вы, спадар рэдактар, імкнецеся забіць усякія зародкі беларускай культуры. Сведчыць аб гэтым таксама факт, што вашы прыхільнікі публічна паляць сцяг і партрэт дэмакратычна абранага беларускага прэзідэнта (рабіў гэта кандыдат у паслы Сейма РП спадар Яўген Вапа!).

Прапаную, каб вы, спадар рэдактар, змянілі свае паводзіны і знайшлі месца на аб'ектывізм у сваёй беларускай дзейнасці на карысць беларускага насельніцтва Беласточчыны.

**Юрка Іванчук**

# Не падумалі аб будучыні

У пачатках дзевяностых гадоў у Чаромхаўскай гміне, як і самім пасёлку, праводзілася перабудова электрычнай лініі. Тое, што адказныя за справу энергетычныя чыноўнікі і мясцовы самаўрад абыякава ставіліся да гэтай справы, сведчыць гэты вось прыклад.

Вуліца Вішнёвая з'яўляецца зараз у пасёлку адной з найбольш ажыўленых. Яна спалучае Кузаву са Ставішчамі і Ставішчы з Прадпрыемствам чыгуначнага рухомага саставу. Гэтай дарогай карыстаюцца многія жыхары пасёлка, паколькі яна была акуратна пасыпана жвірам і дарожная служба Гмінай управы пастаянна ўтрымоўвае яе ў належным стане (раўняе грэйдэрам калдобіны). З боку Прадпрыемства чыгуначнага рухомага саставу, як і з боку Ставішчаў на слупах завешаны ліхтары вулічнага асвятлення. Але ёсць адрэзак (каля 400 метраў) незабудаваны. Пачынаецца ён ад сядзібы Сяргея Саўчука, а канчаецца каля збудаванняў Юркі Рошчанкі. На гэтым адрэзку, у час перабудовы лініі, слупы паставілі не пры вуліцы, а ў чыстым полі ў аддегласці каля 200 метраў ад дарогі. На Вішнёвай плануецца палажыць асфальтавае палатно ў недалёкай будучыні. На маю думку, патрэба будзе паставіць на гэтым адрэзку вулічнае асвятленне. Можна было б зрабіць гэта зараз. Аднак „праектанты" рашылі, што бегаючым па полі зайчыкам вулічнае асвятленне непатрэбнае.

А чаму ж бы не падумаць аб будучыні, разбудове пасёлка і прыдатнасці гэтай дарогі грамадству?

**Уладзімір Сідарук**

# Гайнаўшчына на фотаздымках

5 кастрычніка г.г. у Гайнаўскім доме культуры, па вул. Беластоцкай 2, адкрылі цікавую фотавыстаўку пад загалоўкам „Вакол нас". Экспазіцыя складаецца з падборкі 72 лепшых фотаздымкаў пяці таленавітых фотааматараў: Вітальда Фалькоўскага, Мар'юша Юзвіка, Юркі Вуйціка і Уладзіслава Завадскага з Гайнаўкі ды Войцеха Пацэвіча з Нараўкі. На выстаўцы „Вакол нас" перш за ўсё адлюстраваны на каляровых фотаплёнках навакольныя маляўнічыя куточкі Гайнаўшчыны ў восеньскую і зімовую пару года.

Экспазіцыю варта паглядзець. Не будзе гэта страчаны час. Адкрытая яна штодзень у гадзінах працы ГДК. Запрашаем усіх зацікаўленых.

**(яц)**

# Больш давер'я

У апошняй выбарчай кампаніі грамадства ставіла сваім кандыдатам у паслы і сенатары пастулаты наконт бяспечнасці ў нашых гарадах і вёсках. „Хопіць ужо насілля і гвалту! Мы хочам жыць спакойна і адчуваць сябе бяспечнымі", — чуліся галасы выбаршчыкаў. Разумеючы важнасць сітуацыі, Галоўная камендатура паліцыі вырашыла вярнуцца да добрых часоў участковых міліцыянтаў, якія пры камуне актыўна супрацоўнічалі з жыхарамі свайго ўчастка. Такое супрацоўніцтва дазваляла раённай службовай асобе з'яднаць давер'е сваіх падапечных і атрымоўваць ад іх інфармацыі аб адзінках парушаючых закон і супрацьставіцца ўсялякай паталогіі. Памятаю я такога ўчастковага з Гайнаўкі з шасцідзесятых гадоў. Ён адзіны найлепш ведаў злачынны паўсвет. Таму начальнікі даверялі яму і даручалі рашаць самыя цяжкія расследаванні, якія тычыліся хуліганства, гвалту і насілля. І ён з гэтым належна спраўляўся.

Зараз Галоўная камендатура ўвяла тэлефон давер'я ў Варшаве. Прымаюцца па ім справы карупцыі, хаця, можна званіць і ў іншых справах.

Такія тэлефоны пачалі ўводзіць і ў некаторых ваяводскіх камендатурах. На маю думку, такі тэлефон прыдаўся б і ў Беластоку. Дагэтуль грамадства не адважваецца яўна выступаць супраць парушальнікаў закона, адчуваючы пагрозу помсты ад гэтых апошніх. Ананімны званок і паведамленне аб злачынцы або вядомых дэталях у справе магло б дапамагчы злавіць не аднаго віноўніка і прыцягнуць яго да адказнасці.

Аднак ў гэтай справе абавязвае абсалютнае давер'е. І калі мы будзем больш давяраць сваім паліцыянтам, а яны нам, мо і паменшыцца колькасць паталагічных з'яў і станем адчуваць сябе бяспечнымі. А грамадства перад усім гэтага патрабуе.

**Уладзімір Сідарук**

# Якая зіма?

*— Якую зіму прадбачваеце, дзядзька Рыгор? Лёгкую? Вострую?*

— А што там гадаць! Якая будзе, такую прыйдзецца і перажыць. Я на ўсякі выпадак добрае футра сабе прыдбаў. Так што вострая зіма мне не страшная.

*З 90-гадовым Рыгорам БАЙКО з Белавежы словам перакінуўся*

**Пётр Байко**



# Праца і апека

Зараз у Інвалідным кааператыве „Прагрэс" („Postęp") у Гайнаўцы працуе 165 чалавек, у тым ліку 90 інвалідаў. Тут шыюць перш за ўсё спецвопратку ды рукавіцы з цiку і бавоўны. Купляюць іх перш-наперш будаўнічыя фірмы, між іншым 43 прадпрыемствы з Беластоцкага ваяводства.

Ад нядаўна кааператыў „Прагрэс" мае свой закройны цэх з узорамі вытворчасці і што самае важнае — навейшыя швейныя машыны. Усё гэта зараз неабходнае для таго, каб магчы рэалізаваць заказы на вопратку паводле новых фасонаў. Сёлетняй восенню пры кааператыве пачалі будаваць рэабілітацыйную амбулаторыю. Стаўляе яе Бельска-Падляшскае будаўнічае прадпрыемства, адно з лепшых на Беласточчыне.

Кіраўніцтва кааператыва клапоціцца пра свой працоўны калектыў. Тут жа на месцы ён можа атрымаць медыцынскую дапамогу. Ёсць розныя лекары: тэрапеўт, стаматолаг і неўролаг. Можна пакарыстацца паслугамі фізікатэрапеўтычнага ды кінезытэрапеўтычнага кабінетаў. Усё гэта дзеля таго, каб увесь калектыў быў жыццярадасны, спраўны фізічна і ахвотна працаваў.

**(яц)**

# Парнасік

### Лістапад і нашы роздумы

У лістападзе, як заўсёды,
Менш маем работы.
Да зімы гатовімся,
Працуем і не бавімся.
У полі зрабілі апошнюю *перапяліцу*
І можам гэтым пахваліцца.
Маем хлеб і корм для жывёлін,
Якія пакуль ходзяць на ланцугах і на волі;
А неўзабаве прыгонім іх у хлявы і аборы.
У лістападзе дзень праходзіць вельмі скора.
Каля дома будзем дабытак даглядаць
І так сваё багацце нажываць.
А сёння гэта цяжка і *нерэнтоўна*:
У Польшчы селяніну немагчыма стаць на ногі грунтоўна.
Але галоўнае: мець здароўе, сілы і згоду,
Тады пераможам найгоршыя перашкоды.
Гатовімся да зімы мо марознай і снежнай.
Для звярыны і птушак бяда, ды і нам не смешна.
У лістападзе дрэвы засынаюць зімовым сном
І накрываюцца цудоўным белым радном.
Лісцё сваю ролю адыграла і цяпер на зямлі яно падсцілкай
І неахвотна бярэцца на вілкі:
Хоча маленькім арганізмам даць свой *прыют* —
Рамантычны свой „дом”, цяпло і кут.
Селянін загатовіў ужо на зіму дровы:
Цяжкі гэта труд і малая слава,
Але гатовіць і на наступную зіму, і на наступны год,
Бо можа быць многа нечаканых прыгод.
Тэлевізар у доўгія вечары — гэта наркотык,
Які чароўна заманьвае пасля работы.
Ён вочы шкляныя і блакітныя мае,
І зло, і дабро праслаўляе.
Не чуваць ужо ў нас вечарынак, рагулек...
А заспявай — дык скажуць, што нейкі прыдурак.
Цяпер вечарынак няма, загінулі,
Быццам іх ракетай часу на другую планету закінулі.
Не марнуйма, аднак, часу, восені і лістапада —
Такая мая шчырая прапанова і парада.

**Мікалай Панфілюк**

### Заплюшчваю вочы...

Заплюшчваю вочы і стаўлю пытанні.
Пасля гэтага не можа здарыцца нічога.
Таму засынаю як найхутчэй,
І мой сон змяняецца ў спіс жыхароў Відава.
І ў сне ёсць эрозія смерці і страх ад жыцця,
Гэта імёны тых хто адышоў.
Чую смех і размовы — яшчэ з іх жыцця,
А яны цяпер хочуць толькі любові, спакою.
А толькі срэбнакрылы анёл ведае адказ,
Што ляціць над горадам — адпіша на лісты.
Ды толькі залатыя рыбкі умеюць ілгаць —
Спаглядаючы спакойна, — на ўсіх мовах свету...
Заплюшчваю вочы, і ў чарговы раз
Пытаюся, што пасля... Нічога.
Нічога пасля не здарыцца.
Не будзе адказу. Не будзе пытання.

**Андрэй Гаўрылюк**

### Праўда і „Праўда”

Як хочаш праўды,
Шпулюй да кіёска,
Там купіш „Праўду”,
Там яе многа.
І хоць у „Праўдзе”
Праўда святая,
Яе купляюць
Ды не чытаюць.
Добрая праўда
За трыццаць грошаў,
Каб загарнуць у яе
Два кіло доршаў.
Глядзеў на гэта
Раз справядлівы,
Збялеў і кроплі
Ад сэрца піў ён.
Той, хто еў доршы,
Схацеў раз праўды,
Тады да кіёска
Яго паслалі.
Зайшоў у царкву ён,
Свечку паставіў,
У камітэце
Аформіў справу.
Ішоў дадому,
Казалі людзі,
Што камітэта
Ужо не будзе.
„Няхай не будзе, —
Плячыма рушыў, —
Маё аформіў,
Рэшту не мусіць”.
А потым узяў ды
Перахрысціўся:
„Будзе, што Бог дасць,
Я — не палітык”.
На селядцы ён
Зноў зарабляе,
Праўду купляе,
Ды не чытае.

*1980 г.*

**Цётка Мальвіна**

### Як пачне

Як пачне Янкоўскі
Пропаведзь казаці
Тады трэба Лешку
Ад улады ўцякаці.
Калі кепска ступіць,
Гэта трэба знаці,
Што на кожным кроку
Будуць яго падсцерагаці.
Нічога не ўдасца
Яму ўсё ж такі зрабіці
Не міне тры гады,
А стануць судзіці.
Тады яму скажуць
Што не ўмее рабіці,
Каб разам з Ганнай
У турму пасадзіці.
Ведайце вы добра
Што трэ вам трымацца,
Каб для тых халераў
Ніяк не паддацца.

**Мікалай Лук'янюк**

# Вер – не вер

Шаноўны Астроне! Майму бацьку прыснілася, што ён хоча распаліць у печы. І салому падкладае, і сухую паперу, якую знайшоў у кішэні, але нічога не выходзіць. І падумаў ён: ужо б нічога не варыў я, але ж хлеба няма. Раптам ён успомніў: „А-а, учора ж мая пірог прынесла. Буду есці!”

А мне прысніўся мой сусед. Скардзіцца ён, што баліць яму сэрца. У руках ён трымае сціречку з чырвонымі ружамі. А яго сястра дый гаворыць яму: от дурны...

І яшчэ мне прысніўся адзін сон. Нейкім чынам мы з бацькам апынуліся ў касцёле аж у Мальборку. А ксёндз і кажа майму бацьку: „Вы не маеце права тут быць!” Ну, дык мы з бацькам выйшлі. Але праз нейкую хвіліну я вярнулася і кажу ксяндзу: „Больше радости у ангела на небесех от одного грешника, кающегося во грехах, чем от 99 праведников, не имевших нужды в покаянии”. Ксёндз мне гаворыць: „I zawsze pani tak mówi?” Дык я кажу, што заўсёды. І тады я адчула, што ён нам не вораг, а прыяцель.

Адкажы, Астроне, што абазначаюць гэтыя тры сны.

**Марыя**

Марыя! Сон тваіго бацькі, якому прыснілася, што ніяк не мог распаліць у печы, можа сведчыць пра тое, што ў яго жыцці ці гаспадарцы паявяцца нейкія праблемы. Магчыма, гэта будуць нейкія патрэбы, фінансавыя недахопы (пірагі).

Наконт тваіго сну пра суседа, дык думаю, што яго скарга на боль сэрца супадае з рэчаіснасцю. А чырвоныя ружы абазначаюць для цябе нешта добрае, радаснае.

Што датычыцца тваіго другога сну, дык калі сніцца нейкі храм, значыць, чакае цябе сум і расчараванне. Але, беручы пад увагу, што дыскутавала ты з ксяндзом і ён быў табе прыхільны, трэба лічыць, што сустрэнешся з кімсьці разумным і павядзеш з ім філасофскую размову.

**Астрон**

# Што край, то і абычай

Чалавек добра выхаваны ў адной дзяржаве, у другой можа аказацца зусім нявыхаваным, бо „што край, то і абычай”. Напрыклад, пасля пачастунку ў эскімосаў неабходна безумоўна мець ікаўку, адрыгванне ды іншыя сімптомы, што мы аб'еліся. Інакш можна вельмі абразіць гасцінную гаспадыню. А вось, каб у нас хтосьці так сябе паводзіў!

Таксама жэсты, якімі часта паслугоўваемся, у розных частках свету маюць іншы сэнс і па-рознаму іх успрымаюць. Мы „так” паказваем кіўком галавы ўперад, „не” — пакручваннем галавы ў бакі. А балгары наадварот. Семангі, племя негрытосаў з сярэдзіны паўвострава Малака, на „так” выцягваюць галаву ўперад, на „не” прыплюшчваюць вочы, адначасова апускаючы галаву. Абісінцы „так” паказваюць адхіленнем галавы ўзад, „не” — адварочваючы галаву ў бок правага пляча.

Даякі, інданезійскія жыхары, насяляючыя востраў Барнео, падтакуюць падносячы бровы, а пярэчаць злёгку іх насупіўшы. Японцы і далёка ад іх пражываючыя — бо ажно ў Паўднёвай Афрыцы — басута, негрыцянскія людзі банту, свістам выказваюць найбольшую пашану і захапленне.

Напляванне камусьці на твар — у Еўропе і ў Амерыцы жэст найбольш абразлівы — масаі, негрыцянскае племя ва Усходняй Афрыцы, успрымае як доказ добразычлівасці, а нават блаславенства. Ігранне пальцамі на носе ў нас абазначае кпіну. Тода, дравідыйскае племя, пражываючае на ўзвышшы Нілгіры ў Індыі, гэты жэст успрымае як доказ павагі і шчырага жадання ўстанавіць сяброўства з намі.

**Апр. Я. Ц.**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 2. злучэнне элементаў сярэдняй ступені акіслення з кіслародам, 4. вялізная выкапнёвая яшчарка, 6. у савецкім гербе, 7. адрэз тканіны, 9. рака ў Пакістане, 11. востры кавалак разбітай пасудзіны, 12. музыка, што іграе на альце, 13. дваранскі тытул у Англіі, 15. зямля, нанесеная ветрам, 17. металічны злучальны стрыжанёк, 18. невялікае ваеннае судна з некалькімі гарматамі для дзеяння паблізу берагоў, 19. цар Карынфа, які за абман багоў вымушаны быў укочваць на гару камень, які з вяршыні скочваўся ўніз.

**Вертыкальна:** 1. Аляксандр, расейскі кампазітар (1872—1915), 2. фігура ў ігральных картах, 3. Казімір, ксёндз, беларускі асветнік (1890—1926), 4. яшчэ не генерал, 5. слуга культу, пазбаўлены царкоўнага сану, 6. устойлівы сезонны вецер, які летам дзьме з мора на сушу, а зімой з сушы на мора, 8. маленькі мяшочак для табакі, 9. абазначэнне невядомай велічыні ў матэматыцы, 10. хлеб і віно, над якімі адбываецца хрысціянскае богаслужэнне, 14. перыяд гісторыі Усходняга Міжземнамор'я ад 4-га ст. да 30 г. да н.э., 16. велічыня, роўная адносінам катэта, што ляжыць супраць дадзенага вострага вугла, да гіпатэнузы, 17. амерыканская службовая асоба, якая мае паліцэйскія паўнамоцтвы.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 40 нумара**

**Гарызантальна:** батыст, Балгар, Англія, лыка, шчыт, Прэмінджэр, азон, Балі, сперма, стажор, асечка.

**Вертыкальна:** бацылы, стан, Баія, артрыт, глыбінямер, капрон, Шчэрба, азбест, лірыка, спор, Маас.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Міхалу Байко** з Беластока.


# Ніва

**„Niwa”**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

### Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”. Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

### Prenumerata:

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1998 r. upływa 5 grudnia 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Фрашкі пра нашых

## Прарок

Нагаварыў сто тон
Пра Мову і Радзіму.
Для іншых той трызвон,
Не для яго радзіны.

**Вандал Арлянскі**

## Думкі ў час мігрэні

* Свет быццам адзін, а як па-рознаму бачаць яго чалавек, кот, мурашка...
* Пажаданню канец прыносіць здзяйсненне.
* Хвароба ўсведамляе нам, як прыгожае ёсць жыццё.
* Чужое гаўно больш смярдзючае, чым сваё.
* Не патрапім уявіць сабе бясконцасць, а хочам зразумець чым ёсць Бог.

**Пётр Баўко**

# Ніўка




*Малюнак А. Гармазы*

## Ін'екцыя

Ніколі мне не прыходзілася наведваць лекара ў доме адпачынку, але цяпер гэта было неабходна.

Калі я зайшоў у кабінет, лекар, не падымаючы вачэй, ветліва пацікавіўся:

— На што скардзіцеся, грамадзяначка?

Пытанне мне здалося трошкі дзіўным, бо я ніколі не быў грамадзяначкай. Я заўсёды быў таварышам Цыкавым.

— Я прыйшоў для ін'екцыі, — адказаў я падкрэслена мужным голасам.

Лекар агледзеў мяне, падумаў і сказаў:

— Вы падобны на адну афіцыянтку са сталовай. На што скардзіцеся, таварыш?

— У мяне нарваў палец.

— Што вы робіце гэтымі пальцамі?! — развёў рукамі лекар. — У мінулым годзе ў аднаго нарваў палец, цяпер у вас. Ану, пакажыце, што вам прапісалі.

Я працягнуў лекару бутэлечку і рэцэпт.

— Тэ-экс! Пеніцылін... Але навошта стрэптаміцын? Урэшце, раз прапісана разам, няхай будзе разам. Уколем як прапісана.

Ён адышоўся і пачаў корпацца ў металічнай каробцы, бурчучы пры гэтым:

— Ай-ай-ай, сястра забрала добрыя шпрыцы, а мне пакінула бракаваныя. Паспрабуй зрабі ін'екцыі такімі.

Я сказаў, што мог бы зайсці пазней, але лекар мяне перабіў:

— Вось вам ампула з растваральнікам, а вось ножык. Адбіце ў ампулы кончык.

Я паспрабаваў, але ў мяне нічога не атрымалася.

— Не атрымліваецца, доктар!

— Ведаю, што не атрымліваецца, ножык тупы. Вазьміце вату і адламіце.

З ватай атрымалася.

Лекар набраў трохі растваральніка ў шпрыц, змяшаў з пеніцылінам і падаў мне бутэлечку.

— Цяпер патрасіце бутэлечку і адбіце кончык у другой ампулцы.

— Як гэта можна зрабіць? Адной рукой трэсці бутэлечку і ўскрываць другую ампулу. У мяне не тры рукі.

Ён паглядзеў на мяне здзіўлена.

— Бутэлечку прыцісніце локцем да грудзей і трасіце. Мне хапае клопату з гэтымі крывымі іголкамі, я не магу сачыць за ўсім. Іголкі тонкія, лёгка гнуцца. Але для вас я падбяру таўсцейшую іголку.

Вось табе і на! Цяпер шпрыц прапускае. Заклеены лейкапластырам, але той, хто яго заклейваў, трохі не даклеіў. Ці трасеце вы бутэлечку?

— Доктар, я прыйду ў другі раз!

— Ніякіх другіх разоў. Толькі работа наладзілася. Вось я стаўлю самую тоўстую іголку. Цяпер спакойна, я ўкалю для пробы, каб паглядзець ці будзе праз яе пырскаць. Раскажыце, як у вас нарваў палец!

Я парэзаўся бляшанкай.

Вось бяда, тоўстая іголка забілася. Трэба прачысціць яе тонкай... І як вы напароліся на іржавы цвік?

Я парэзаўся бляшанкай.

— І гэта іголка — не іголка, і гэты шпрыц — не шпрыц! Трэба быць уважлівымі, калі махаеце сякерай. Добра, вазьму сярэднюю іголку. Кладзіцеся на канапу і спусціце штаны.

Мяне кінула ў пот, я са страхам сачыў за яго рухамі, а калі я лёг, мяне пачало трэсці, як у ліхаманцы.

Лекар пачаў абмацваць мяне, мапатонна бармочучы:

— Куды я ўкалю вам іголкай, калі ў вас адны косткі. Пакажыце мне хоць адзін кавалачак мяса, куды я змагу ўкалоць іголку. Адны косткі, сухажылі і злучальныя тканкі.

Я ўскочыў на ногі і закрычаў:

— Не жадаю ніякай ін'екцыі!

Лекар сурова паглядзеў на мяне.

— Тады што вы тут робіце?

— Нічога, — вымавіў я дрыжачым голасам. — Проста іпоў па калідоры і выпадкова зазірнуў. Ніякі палец у мяне не баліць, у мяне самыя здаровыя пальцы на свеце. А пеніцылін я таксама выпадкова захапіў у аптэцы. Да пабачэння. **Іярдан Папоў**

*З балгарскай пераклаў*
*Валерый Бабей*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

У рэстаране:

— Ці можна ў вас атрымаць нейкую халодную закуску?

— Гэтага не маем; але можаце заказаць нешта гарачае і пачакаць аж астыне.

* * *

— Ну і як вам смакавала катлета? — пытае афіцыянт.

— Жывёла, з якой яна была ўзята, мусіла быць вельмі здаровай...

— Адкуль гэта ведаеце?

— Бо дажыла да такой старасці.

* * *

Парачка сядзіць у кафэ.

— Пра што думаеш? — пытае ён.

— Пра тое, што і ты, — адказвае яна.

— Дык да каго пойдзем: да мяне ці да цябе?

* * *

Кіраўнік рэстарана звяртаецца да афіцыянтаў:

— Сёння вам трэба быць асабліва ветлівымі...

— Будзе камісія?

— Не; толькі наш кухар усё перасаліў.

* * *

У гасцініцу прыехала пажылая дама на адпачынак. Заняўшы нумар паклікала загадчыка:

— Гэта скандал! Калі я выглянула цераз акно, згледзела, што ў кватэры насупраць купаецца нейкі мужчына: зусім голы!

Загадчык пагледзеў на згаданую кватэру:

— Тое акно вельмі высока — відаць толькі галаву гэтага мужчыны...

— Толькі галаву?! — з'едліва спытала дама. — А станьце вось на гэтае крэсла!

* * *

Амерыканскі пасол гутарыць з Брэжневым:

— У ЗША царыць сапраўдная дэмакратыя: грамадзяне публічна папракаюць свайго прэзідэнта і паліцыя іх не чапае...

— І ў нас таксама: кожны можа прыйсці на Чырвоную плошчу і без ніякіх непрыемнасцей папракаць вашага прэзідэнта.

* * *

— На якія эпохі дзеліцца гісторыя ПНР?

— Першая — гэта цяжкасці росту, а другая — гэта рост цяжкасцей.

* * *

Перад Богам з'явіліся дастойныя і заслужаныя душы: Мазавецкі, Герэмэк, Курань, Міхнік і Валэнса. Бог са свайго трона запрашае іх сесці. Усе сядаюць апрача Валэнсы.

— А ты, сын, чаму не сядаеш? — пытае Бог.

— Бо маё месца яшчэ занята.

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Даражэнькае, мілае Сэрцайка! Сама не ведаю, што рабіць. Адзін знаёмы данёс мне, што мой муж мне здраджвае. Фактычна ён так гэтага не назваў, але сказаў, што з ім працуе адна дзяўчына, з якой яны амаль не разлучаюцца. Усё разам абмяркоўваюць, заўсёды разам яны супраць дырэктара, а пасля іхной шэпчуцца. Як толькі нейкія імяніны — яны побач. Там у іх усім здаецца, што яны — закаханыя.

Знаёмы сказаў усё гэта мімаходам, быццам бы такая справа, як эвентуальная здрада майго мужа магла быць мне абыякавая. Я чамусьці адразу паверыла гэтаму знаёмаму. Ён супрацоўнічаў з фірмай, у якой працаваў мой муж, і часта там бываў. А пакольки быў чалавекам кампанійным, дык, пэўна, і з дзяўчатамі пляткаваў нямала. Дзяўчаты, само ведаеш, усё бачаць.

У першы момант, як ён раптам сказаў, так я і выслухала адным вухам. Але ён цягнуў далей. Пасля працы, сказаў, яны часта, быццам сапраўдная пара, ідуць „на каву". А куды ідуць — невядома. Праўда, бачылі іх калісьці ў кавярні, але што там! У яе, нябось, свая кватэра, маглі ж скрунуць па дарозе тудзы і там напіцца тае кавы.

Цяпер дык у мяне заткнула дух. Я нават забылася, што знаёмы ад часу, калі я выйшла замуж за іншага (два гады таму), лазіў за мной, як цень, толькі шукаючы нагоду, каб пачаць нейкую гутарку.

У такой сітуацыі, па праўдзе, можна было б падаваць на развод. Сведкаў можна было б знайсці без праблемы. Але (не гаворачы пра мае пачуцці) дзіця ўжо адзывалася пад маім сэрцам. Божа мой, што рабіць?!

Бацькам не піснула я ані слова. Не магла я вярэдзіць ім душу цяпер, калі яны так чакалі ўнука. Але з сяброўкай я мусіла падзяліцца. Нягоднік! Сяброўчын твар ад абурэння зрабіўся чырвоны. Нельга яму гэтага дараваць! Мусім высветліць справу.

Я неяк адразу паддалася ёй, і мы пачалі „расследаванне". Калі майго мужа не было дома, мы шукалі яго па кавярнях, заходзілі неспадзеўкі да яго на працу, выпытвалі ў мужавых супрацоўніц, дзе ён можа быць, ну, і наогул. Большасць з іх глядзела на нас з недаўменнем. Адна дык нават не вытрымала. Ну, вы дык жонка, кажа, а другая жанчына што тут робіць?! Мне стала сорамна, калі наступная яго каляжанка дасłоўна злаяла мяне: ваш муж працуе, а вы, бадай, маеце занадта многа часу, дык можа таксама варта было б пашукаць нейкую працу...

Цяпер я сяджу і думаю, што я нарабіла... А як будзе, калі яны пра ўсё раскажуць мужу?

**Крыся**

Крыся! Ну, ты ж пакуль што не вытвала, з кім гуляе твой муж, а пыталася толькі, дзе ён можа быць. Пра гэта ты заўсёды можаш пытацца, магла быць нейкая патрэба. Дык з гэтым кампраметацыі быць не павінна.

Але... пакуль што. Не расследуй справу далей! Не рабі гэтага, калі хочаш захаваць сваю сям'ю. Махні рукой і скажы сама сабе ўпэўнена: ай там, нічога не было!

Сям'я для цябе, будучай маці, цяпер найважнейшая. А пачнеш капацца, яшчэ не давядзі Божа, да нечага дакапаешся. А тады і сама не зможаш ужо з ім жыць. Нішто не мінае бясследна.

З другога боку, варта было б прааналізаваць учынак твайго знаёмага — інфарматара. Ён што? Лазіў, так лазіў за табой, калі ты выйшла за іншага, а цяпер вось нарэшце прыдумаў... Калі б яго сапраўды звязвалі з табой вялікія пачуцці, дык ніколі не зрабіў бы ён табе такой прыкрасці, якую зрабіў. І не думаю, што зрабіў ён яе несвядома.

**Сэрцайка**